Народная Воля
http://www.nv-online.info
22 КАСТРЫЧНІКА 2013 г.

З ПОШТЫ ГАЛОЎНАГА РЭДАКТАРА

# Якім жа ён быў, Пётр Міронавіч?

Паважаны Іосіф Паўлавіч!

У "Народнай Волі" (№71, 2013 г.) апублікаваны цікавы артыкул вядомага літаратуразнаўцы, кандыдата філалагічных навук, прафесара Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў Лідзіі Савік "Служы толькі Бацькаўшчыне — і ніколі не памылішся". Ён прысвечаны памяці драматурга і навукоўца-гісторыка Алеся Петрашкевіча, п'есы якога ў свой час прыцягвалі ўвагу сваёй вастрынёй і выклікалі нават здзіўленне: як толькі ўдаецца такім глыбока праблемным, па-грамадзянску смелым творам прабівацца скрозь жорсткія цэнзурныя заслоны? На адным са спектакляў прысутнічаў і тагачасны старшыня Савета Міністраў БССР, а затым — наступнік загадкава загінуўшага першага сакратара ЦК КПБ Пятра Машэрава Ціхан Кісялёў. І вось — згадваў Алесь Петрашкевіч — калі глядзельная зала ўзарвалася гучнымі воплескамі на сцэнічную рэпліку галоўнага героя аб тым, што за злачынствы, якія робяцца супраць народа, трэба судзіць, Кісялёў даволі гучна звярнуўся да свайго суседа па тэатральным крэсле — сакратара аднаго з абкамаў: "А нас з табой у суд не павядуць?"

Падобна, дайшоў-такі аўтарскі пасыл і да слыху высокіх кіраўнічых сфер!

Пра гэты эпізод і шмат яшчэ пра што цікавае я даведаўся з кнігі Алеся Петрашкевіча **"Крыніцы і каламуць"** (пра якую вельмі слушна згадала Лідзія Савік). На жаль, да гэтага яе не чытаў, бо яна выйшла ў свет у 2008 годзе мізэрным тыражом. А зараз проста захапіла адметнасцю багатай фактуры пра найноўшую гісторыю Беларусі і нераўнадушным роздумам аўтара — сучасніка падзей — над тым, што зведаў і назіраў ён сам.

У кнізе многае ўражвае. У тым ліку і расповед пра дзейнасць тагачасных органаў вышэйшай улады Беларусі, і перш за ўсё — Пятра Машэрава. Гэта блізкая нам гісторыя, якая прайшла праз лёсы старэйшага пакалення і ўсёй нашай зямлі.

Неадназначная фігура Машэрава і дагэтуль па-рознаму ўспрымаецца рознымі людзьмі. Адны, пераважна ветэраны вайны, з якімі ён побач ішоў змагарнымі шляхамі супраць фашысцкай навалы і якіх шчыра, сардэчна любіў, дагэтуль ледзь не абагаўляюць гэтага палітычнага дзеяча. Іншыя, нават некаторыя з былых наменклатуршчыкаў, з кіслай усмешкай кідаюць: "А што Машэраў? Такі ж, як і ўсе ў высокім крэсле..."

Петрашкевічаў расповед пра Пятра Машэрава — адзін з тых раздзелаў, які, лічу, найбольш удаўся аўтару. Было б вельмі карысна пазнаёміцца з ім шырокаму колу чытачоў і ў сённяшні час, калі вядзецца насцярожваючая гульня ў "союзное государство" з алігархічнай Расіяй. Нам варта глыбей асэнсаваць самімі ж здабыты гістарычны вопыт, дазнацца пра погляд на гэтую неардынарную фігуру з вуснаў пісьменніка, які пэўны час працаваў у ЦК Кампартыі Беларусі, сустракаўся з Пятром Машэравым у службовым кабінеце і якому даводзілася чуць ад першага сакратара такое, што ніяк не магло прагучаць з высокай кампартыйнай трыбуны...

Шаноўная "Народная Воля"! Ці не знойдзецца ў вас жадання і магчымасці надрукаваць з кнігі "Крыніцы і каламуць" раздзел пад назвай "П.М.Машэраў: "Цяпер я ведаю..."? Спадзяюся, што гэта будзе цікава і сёння, таму што многае, аб чым там ідзе размова, не страціла сваёй актуальнасці.

**Эрнест ЯЛУГІН, пісьменнік.**

## Ад рэдакцыі

**Шаноўны Эрнест Васільевіч! Улічваючы просьбы Вас і іншых чытачоў, ахвотна друкуем фрагмент кнігі ўспамінаў А.Петрашкевіча, у якім Алесь Лявонавіч занатаваў нямала цікавых эпізодаў, звязаных з жыццём Пятра Міронавіча Машэрава, прадставіў гэтую знакавую палітычную асобу ў самых розных абставінах.**

*П.М.МАШЭРАЎ:*

# «Цяпер я ведаю...»

Пра гэтага неардынарнага чалавека напісана нямала, але вобраз яго, як мне здаецца, яшчэ не раскрыты, не створаны. Ужытыя фарбы для абмалёўкі партрэта не вызначаюцца шырынёй спектра. Перад намі пакуль што манументальная фігура дзеяча, гэтакая постаць рыцара без страху і папроку. Можа, менавіта таму афіцыйная прапаганда і падае яго як прыклад для пераймання "подрастающему поколению". На прыкладзе яго жыцця сапраўды ёсць чаму павучыцца, але ў першую чаргу дзядзькам дарослым, якія ўжо самі з вусамі. Мяне ж асабіста П.М.Машэраў цікавіць не як бронзавы манумент, узведзены людской фантазіяй, а як чалавек, як асоба, якому дала жыццё звычайная жанчына-сялянка.

І бацька ў яго быў селянін, але крыху незвычайны. Вылучаўся на вёсцы нейкай сваёй адметнасцю. Было ў яго нешта ад інтэлігента. Можа, большая адукаванасць, чым у іншых мужыкоў. Можа, прыродны розум, натуральная дабрыня і павага да людзей. Але як бы там ні было, а аднавяскоўцы з Міронам Машэрам здароўкаліся першымі і, калі з некім трэба было параіцца па якой важнай справе, то ішлі да яго. Так і казалі: Мірон Машэра ўсё ведае. З прозвішчам я не памыліўся. Бацька Пятра Машэрава насіў афіцыйнае прозвішча Машэра. У 30-я гады, калі бурылі храмы і грамілі рэлігію, ён заступіўся за мясцовага святара. Уладам гэтага хапіла, каб пазбавіць яго волі і самога жыцця.

Лёс мой склаўся так, што меў я магчымасць больш за 20 гадоў назіраць за Пятром Міронавічам, прытым гадоў 5 з іх не здалёку, а зблізу, пры дзелавых сустрэчах па разу, а здаралася, і болей на тыдзень. Пагадзіцеся, што я маю пэўнае права на свой погляд. Многія іншыя, хто быў намнога бліжэй да Першага і, безумоўна, ведае пра яго больш, але сказаць па нейкай прычыне не хоча, а хутчэй за ўсё не можа, не ўмеюць. А таму мо і лепш, калі змоўчаць. Я ж з лепшых намераў і пабуджэнняў, выключна па ўласным жаданні распавяду пра тое, якім я яго бачыў, якім ведаю, якім ён мне запомніўся праз асабістыя сустрэчы, гутаркі, стасункі па службе, падгледжаныя асаблівасці і дэталі характару, паводзін і іншае, што, спадзяюся, і дабавіць нешта істотнае да стэрэатыпнага ўяўлення большасці маіх суайчыннікаў пра свайго былога лідара. Ад слова "кумір" я тут свядома ўстрымаўся, бо яно не лепшае азначэнне для разумнага чалавека і ў слоўніку расшыфроўваецца як бажаство, ідал, балван (беларускі варыянт). "Не делай себе кумира!" — папярэджвае, як вядома, Свяшчэннае Пісанне на ўсе часы чалавечай гісторыі...

Раней чым узяцца за сціло, каб адзначыць нешта ў пісьмёнах, задаў я сам сабе шэраг пытанняў і сам паспрабаваў адказаць, на якія змог:

— Пётр Машэраў — нацыянальны герой?

— Безумоўна!

— Яго зрабіла героем прапаганда?

— Ён яшчэ і сам здолеў сябе сцвердзіць героем.

— Адукаваны, інтэлігентны чалавек?

— Святая праўда. А то адкуль бы тая павага людская?

— Добры сем'янін? Любячы муж і бацька?

— А чаму б і не? І не роўня іншым...

— Узор дзяржаўнага дзеяча?

— Так, але для свайго часу, калі ўсе вялікія начальнікі ўяўляліся ўзорамі.

— Сумленны і справядлівы грамадзянін?

— Роўна настолькі, наколькі дазвалялі абставіны і час.

— Адкрыты чалавек?

— Роўна настолькі, наколькі лічыў гэта патрэбным.

— Добры дыпламат?

— Дыпламат выдатны.

— Здольны артыст?

— Артыст таленавіты.

— Быў летуценнікам? Рамантыкам?

— І прагматыкам таксама.

— Паслухмяны перад тымі, хто быў над ім?

— З болем у душы, з пакутаю, але паслухмяны.

— Ці быў наіўны?

— Быў, бо верыў, што яго ідэі, дырэктывы, даручэнні выконваюцца.

— Верны сын сацыялістычнай эпохі?

— Так. І вельмі падобны на іншых кіраўнікоў свайго рангу, толькі больш здатны і разумны.

— Кіраўнік, які не памыляўся?

— Памыляўся, і па вялікім рахунку, але меў сілу калі не прызнаць гэта прынародна, то ўсвядоміць.

— Каяўся ў грахах?

— Не ведаю.

— У жыцці лавіраваў?

— Наколькі было неабходна, а больш дакладна, наколькі былі магчымасці.

— Ці мог аддаць на закланне маскоўскім апрычнікам невінаватага чалавека?

— Мог, калі абараніць ужо не спадзяваўся ці пабойваўся, хоць і герой.

— Ці хаваў бы ад людзей катастрафічныя паследкі Чарнобыля? Ці адмовіўся б ад гуманітарнай дапамогі дзяржаў свету на наша пагарэлае?

— Думаю, што і не хаваў бы, і не адмовіўся б. А можа, і зрабіў бы, як загадалі. Хто ведае?

— Ці пераконваў бы цёмных і недасведчаных заставацца ў "зоне" ці вяртацца ў яе?

— Выселіў бы ўсіх, нават пад прымусам, і зрабіў бы іх лёс сваім клопатам. "Зону" закрыў бы неперасягальнай заслонай. Радыяцыйны кантроль зрабіў бы законам, бо быў чалавекам адукаваным, дасведчаным.

— Ці жадаў сваім суайчыннікам шчасця?

— Жадаў, але даць не змог, у чым сам пераканаўся.

— Ці меў расчараванні ў сваіх дзеях?

— Меў, ды яшчэ якія.

— Калі б быў жывы, як бы сябе паводзіў падчас "перабудовы"?

— Прыкладна так, як паводзілі сябе яго сябры Гейдар Аліеў і Эдуард Шэварднадзэ, але аўтарытэтам карыстаўся б большым, чым названыя дзеячы. А можа, і пайшоў бы за Бразаўскасам. Шляхі такіх людзей неспавядзімы, а Масква яго добра-такі дапякла.

— Ці палез бы ў расійскі хамут, які яму дастаткова набіў плечы і намуляў шыю?

— Гістарычны шанц вызвалення ад каланіяльнай залежнасці выкарыстаў бы напоўніцу. А можа, кажу так, што мне гэтага хацелася б... Хоць не-за-лежнасць была ў яго характары.

— Ці меў пачуццё гумару?

— Меў, і высокае. Да таго ж быў насмешлівы і нават саркастычны, але ў межах прыстойнасці і інтэлігентнасці.

— Ці быў шчаслівы?

— Такія людзі шчаслівымі бадай што не бываюць.

Наколькі мне здаецца, Пётр Міронавіч Машэраў — фігура наколькі неардынарная, настолькі і трагічная, нават без той трагедыі, якая літаральна напаткала яго на крутой жыццёвай дарозе.

Адказаўшы ці не адказаўшы на самапытанні, усумніўся я, што не нарабіў памылак, і вырашыў праверыцца на чалавеку, які быў не каля, а пры П.М.Машэраву, і намнога даўжэй за мяне. Дык вось, таварыш К. з большасцю маіх адказаў на мае ж пытанні пагадзіўся, на паасобныя не адрэагаваў а з тым, што Пётр Міронавіч лавіраваў, не быў шчаслівы і не даў шчасця сваім суайчыннікам, катэгарычна не пагадзіўся. У пытанні: ці палез бы ён сёння ў расійскі хамут, які яму "набіў плечы і намуляў шыю", мой "проницательный" суразмоўца ўбачыў не столькі машэраўскі адмоўны адказ, колькі маё жаданне і адразу ж папярэдзіў:

— Не трэба з Пятра Міронавіча рабіць апазіцыянера савецкай уладзе. Ён быў сам ва ўладзе. Ён быў сам уладаю. Ён быў яе ўвасабленнем. Думаю, што ён хацеў яе больш. Відаць, не мог змірыцца і з тым, што самай высокай уладаю ў звышдзяржаве валодае нікчэмнасць.

— Вы хочаце сказаць, што састарэлая, дагматычна-замшэлая, у аснове сваёй хворая нікчэмнасць?..

— Я гэтага не казаў, — перапыніў ён мяне. — А Пётр Міронавіч ва ўнутранай, закуліснай, назавём яе кадравай, барацьбе мог удзельнічаць і, бадай што, удзельнічаў. У высокіх сферах гэта звычайная рэч, але гэта зусім не азначае, што ён стаяў у апазіцыі да самога ладу. Яго магло не задавальняць кіраўніцтва партыі і краіны, але толькі не палітычная і эканамічная арганізацыя гэтай краіны. Словам, дзяржаўнаму ладу і ідэалогіі партыі ён быў адданы да канца.

— Тады пытанне: як бы ён павёў сябе сёння, хоць я і разумею, што гісторыя не мае "сослагательного наклонения".

— Мяркую, калі б не яго трагічная смерць, то ў пэўных варунках ён мог бы падняцца, як вы кажаце, над нямоглым Палітбюро. Для гэтага ў яго былі ўсе падставы і даволі высокі аўтарытэт у краіне. Мог дапамагчы і збег абставін. Мог жа з'езд партыі абраць Генсекам Гарбачова. Пры той раскладцы сіл у Палітбюро на месцы Гарбачова мог бы апынуцца і Машэраў. Я думаю, што пасля горкага вопыту са Сталіным з'езд не стаў бы абіраць у генсекі прадстаўнікоў неславянскага паходжання. І тады ў Машэрава не было б канкурэнтаў за выключэннем старога Грышына і маладога Гарбачова.

— І што, калі б?..

— Калі б Машэраў узначаліў КПСС, гэта мела б сусветна-гістарычнае значэнне. СССР не стаў бы развалінай. Краіна Саветаў засталася б вялікай дзяржавай. Машэраў — гэта не Сакалоў з Малафеевым разам узятыя.

— Але вялікая дзяржава патанала ўжо ў багне сацыяльна-эканамічнага крызісу і дыхала на ладан. Расла нацыянальная самасвядомасць людзей у шматковай імперыі. Яна рана ці позна павінна была развваліцца, як развалiліся ўсе папярэднія імперыі.

— Машэраў пайшоў бы на крутыя рэформы. У яго хапіла б розуму і волі, каб утрымаць сітуацыю...

— А ці можна яе было ўтрымаць пасля таго, як Амерыка выматала нас эканамічна на гонцы ўзбраенняў і пасля паразы СССР у гарачай афганскай і халоднай вайне з усім светам?

— На гэта цяжка адказаць, а можа, і не варта, бо самі ж кажаце, што гісторыя не мае "сослагательного наклонения".

— Народ стаміўся змагацца за пустыя абяцанкі.

— Як гэта пустыя? За гады савецкай улады Беларусь дасягнула небывалага эканамічнага і навуковатэхнічнага ўздыму! Па многіх паказчыках яна далёка за сабой пакінула іншыя саюзныя рэспублікі, у тым ліку і Расію.

— Але, на жаль, не іншыя цывілізаваныя краіны...

— Машэраў стаў прызнаным лідарам нацыі. І ён быў шчаслівы ад усведамлення таго, што даў людзям цярпімае жыццё.

— Цярпімае — можа быць, але не шчаслівае. І сам ён не мог быць шчаслівы. Як чалавек, як дасведчаная, высокаінтэлектуальная асоба ён разумеў, не мог не разумець, што Масква яго ігнаруе, абражае, а народ наш рабуе і трымае ў заложніках на заходняй граніцы.

— Пачакайце!

— Рабуе нахабна і даўно.

— Гэта вы ўжо занадта...

— Занадта тое, што 40 працэнтаў нацыянальнага даходу, ствараемага ў рэспубліцы, забірала Масква. А гэта ні многа ні мала — 10—12 мільярдаў долараў. І Машэраў не мог не ўсведамляць гэтага рабаўніцтва калоніі. Не мог, як мне здаецца, спакойна адрываць такія кавалкі, каб раны на целе краіны пасля гэтага не крывавелі. Ёсць такое паняцце — "унутраная эміграцыя". Безумоўна, яно не тычыцца Машэрава. Але тое, што ён — сын зямлі беларускай — не мог пры гэтай сітуацыі не быць ва "ўнутранай апазіцыі", мне здаецца фактам. Па аналогіі, калі на тое пайшло, з тымі ж Аліевым, Бразаўскасам, Шэварднадзэ і іншымі.

— Адносна Машэрава вы памыляецеся. Ён не быў Бразаўскасам.

— Шкада! Мог бы і быць.

— Пры Машэраву Беларусь стала...

— Рэспублікай вялікай хіміі, высушанага Палесся, разбураных, абязлюдзелых вёсак і гіганцкіх свінакомплексаў, ад дзярма якіх захлыналіся зямля і людзі.

— А што было рабіць?

— Вы хочаце сказаць, што настала самая пара зноў "інтэгравацца" ў Расію, не думаючы ўжо не толькі пра плечы і шыю, але і пра галаву? Абы свінакомплексы і вялікая хімія функцыянавалі...

— Перапынім гаворку, а то пасварымся.

— Толькі адно пытанне, каб я мог сам з сабою яшчэ паразважаць! Пятру Міронавічу было душна ў той атмасферы, у якой ён жыў?..

— Давайце адкладзем размову да новай сустрэчы...

Новай сустрэчы не было. А час няўмольна бяжыць. Метраном адстуквае не толькі мне, але і ўсім маім суайчыннікам, хто на гэты час жыве на сваёй зямлі, у сваёй Айчыне. У якую новую-старую пашчу ўпіхнуць-усунуць нас нашы новыя "лідары-куміры"?! А пакуль не ўпіхнулі, пакуль мы яшчэ адносна самі па сабе, я зраблю спробу прааналізаваць паводзіны П.М.Машэрава на падставе пэўных фактаў яго ўласных выказванняў пры пэўных абставінах і акалічнасцях. Ну сапраўды ж цікава, ці быў лідар каланіяльнай нацыі ў апазіцыі да метраполіі, ці быў асабіста шчаслівы, ці прынёс шчасце і дабрабыт свайму народу, які яго нарадзіў, зрабіў сваім героем і ўзнёс над сабою так высока. І сёння ён хацеў бы параўнаць яго з некім, на яго погляд, значным...



Фота Юрыя ІВАНОВА.

Шчаслівым Першы сакратар ЦК КПБ П.М.Машэраў быў пад той час, калі атрымаў ад цэнтра велізарныя, як тады здавалася, грошы на так званае "преобразование Полесья", а дакладней, на яго асушэнне. Злосным і раздражнёным ён быў, калі невялічкая групка пісьменнікаў і навукоўцаў выступіла супраць загубы краю. Ён не мог зразумець, як гэта адукаваныя, інтэлігентныя творцы не могуць зразумець і прыняць таго шчасця, якое ён нясе людзям спрадвеку забітага Палесся, якое вякамі гніе ў балоце. Ён быў сканфужаным, абураным і гнеўным на псеўданавуку і вучоных-меліяратараў, калі праз некалькі гадоў зразумеў, што загубіў цэлы край, нанёсшы яго прыродзе непапраўную шкоду, не атрымаўшы таго эфекту, на які разлічваў. А разбуранай апынулася не толькі прырода, але і спрадвечны ўклад жыцця палешукоў, іх традыцыйная культура, іх мараль. Расколіна, зробленая гіганцкім плугам акадэміка Мацапуры, прайшла намнога глыбей, чым разлічвалі энтузіясты "преобразования".

На адным з пасяджэнняў бюро ЦК, дзе разглядаліся па-дурному створаныя праблемы, якія лепш было б назваць экалагічнай катастрофай, Пётр Міронавіч разгублена пытаўся:

— Што ж гэта за меліярацыя, паважаныя тэарэтыкі і практыкі, калі ў засуху на Палессі вады няма, а ў дажджлівае лета яе больш, чым трэба? Мы ж з вамі хацелі меліяраваць землі, як гэта зрабілі ў Галандыі ці Прусіі, а на праверку аказалася, што проста асушылі, загубілі цэлы край! Адсюль і засухі, і пажары, і паводкі, і чорныя буры, і разор людзям, якія чакалі ад нас свайго мужыцкага шчасця, бо за вякі насядзеліся ў балоце!

Другім яго расчараваннем і скрухаю быў крах яго ж ідэі суцэльнай і хуткай так званай перабудовы сяла ў маштабах усёй рэспублікі. Але Савецкая імперыя на такія дробязі не магла траціцца. Былі ў яе і больш грандыёзныя затратныя планы ў космасе, на Месяцы, на Кубе, на Блізкім і Далёкім Усходзе, у Афрыцы і бог ведае дзе яшчэ. Асігнаванні цэнтра (у параўнанні з тым, што з рэспублікі выпампоўвалася) на грандыёзную па маштабах перабудову сялянскага быту і сельскагаспадарчай вытворчасці былі такімі мізэрнымі, што будаўніцтва некалькіх, адзінкавых, узорна-паказальных цэнтральных сядзіб калгасаў і саўгасаў накшталт тых жа Верцялішак ці Новага быту зацягнулася на дзесяцігоддзі. А паколькі так званым неперспектыўным пасёлкам, вёскам і сёлам было забаронена ўсялякае развіццё, яны даволі хутка зачахлі і абязлюдзелі. Маладыя сталі разбягацца, хто куды мог: у свае беларускія гарады і райцэнтры, на "новабудоўлі камунізму", на лесараспрацоўкі Поўначы і Усходу і асабліва на нафтапромыслы Сібіры. А што ім яшчэ заставалася рабіць у сваёй вёсцы, калі да яе ўжо не цягнулі святло, тэлефон, радыёлінію, калі ліквідавалі за непатрэбаю пачатковыя школы, "укрупнили" бібліятэкі і клубы, закрылі фельчарскія пункты і крамы? Нават спраўны мужык, не кажучы ўжо пра ўдаву ці ветэрана, не мог, не меў права не толькі пабудаваць новую хату, але і адрамантаваць старую, пакласці новы дах, паставіць новы тын.

Праз 10 гадоў такога неперспектыўнага жыцця тысячы вёсак апусцелі начыста і зеўраюць сёння на нас чорнымі дзіркамі гнілых аконных праёмаў. Збочце з бойкай шашы, паглыбцеся на 10—20 кіламетраў, і вы пабачыце сляды агульнанацыянальнай трагедыі. Вы пабачыце разбурэнне і тлен. Вы пабачыце мясціны, дзе Мамай прайшоў. Паправіць, аднавіць, адбудаваць тое, што назаўсёды загінула, ужо ніхто не зможа, ужо няма каму. Гэтыя сумныя пейзажы Айчыны давялося ўжо пабачыць і самому Пятру Міронавічу. Відаць, яны рабілі на яго ўражанне. Гнятлівае, страшнае ўражанне.

У адной бяседзе Машэраў пашкадаваў, што быў летуценнікам, рамантыкам, калі паспадзяваўся, што саюзная ўлада дасць сродкі на кардынальную перабудову сяла і яго гаспадаркі. Пра сродкі, якія гэта ўлада вымагала і выпампоўвала з Беларусі, змоўчаў, хоць, як мне здаецца, не падумаць пра гэта не мог. Логіка падказвала...

...Можна паспачуваць чалавеку, які без злых намераў загубіў не толькі Палессе, выклікаўшы экалагічную катастрофу, але і прынёс іншую вялікую шкоду свайму народу, за які ў свой час ішоў на смерць і здолеў стаць нацыянальным героем. Між іншым, ён быў не староннім сведкам, як вялікая саўковая імперыя рабіла яго народ няшчасным, бедным, забітым, адурманеным і дэнацыяналізаваным. Але не будзем абвінавачваць яго асабіста ці толькі яго аднаго. Такі быў час, а ён быў з'яваю свайго часу. Ён служыў свайму часу. Служылі і тыя, на каго ён абапіраўся. Верылі ў прыгожую камуністычную казку.

Можа, хто іншы чуў ад П.М.Машэрава словы раскаяння ў тым, што менавіта ў гады яго праўлення ў сталіцы рэспублікі былі знішчаны апошнія беларускія школы. Я гэтага не чуў. На чужой, хоць і блізкай мове працавалі ўсе вышэйшыя і сярэднія навучальныя ўстановы, уся дзяржаўна-бюракратычная машына. Пры ім і пад яго наглядам амаль усе газеты былі пераведзены на мову суседа, а тыражы беларускіх кніг утрымліваліся ў пэўным, мізэрным працэнце ад тыражоў кніг на рускай мове. Падтрымлівалася ў асноўным толькі культура народна-лапцюжная, этнаграфічная. Што-што, а гэта ўжо мне вядома. Бадай што Пётр Міронавіч, пры ўсёй яго адукаванасці і інтэлігентнасці, падзяляў ідэю зліцця ўсіх моў у адну вялікую і магутную, а культуру будучага бачыў у выглядзе нейкага кангламерату культур, што спачатку ўзбагачаюць адна адну, а потым і зусім зліваюцца ў нешта адно яркае і грандыёзнае. А можа, і ён бачыў у гэтым толькі вялікі абсурд і чакаў часу, калі ў Палітбюро і ўсёй звышдзяржаве пройдзе ачмурэнне. А можа, і спадзяваўся на нешта іншае, больш радыкальнае. Але калі яго даклад, прысвечаны 60-годдзю БССР і КПБ, "Па шляху сацыялізму і камунізму ў адзінай сям'і народаў СССР" не лічыць кан'юнктурным, то ні на што такое неардынарнае ён не спадзяваўся. Жыў і думаў, як усе мы грэшныя і замбіраваныя саўковай ідэалогіяй.

І ў той жа час ёсць у мяне сумневы на гэты конт. Глядзеў ён крыху далей за іншых. Неяк у адной гутарцы, звязанай з праблемай культуры нацыянальнай і культуры наогул, Пётр Міронавіч сказаў:

— Калі я пачуў словы Мікіты Сяргеевіча пра тое, што для поўнага шчасця народа трэба сала і каўбаса, то зразумеў, што гэта канец усяму. І захацелася кінуць усё к чортавай мацеры і сысці некуды, каб і не чуць, і не бачыць... А на каго кінеш? І хто пасля цябе прыйдзе? І як падыме, і наогул, ці падыме тое, што ты кінуў?..

Гады і падзеі нашых дзён пацвярджаюць, што тут ён глядзеў далёка... ва ўсякім выпадку далей, чым мы сёння думаем.

Часам мяне здзіўляла і бянтэжыла такая яго адкрытасць і шчырасць. Потым я знайшоў гэтаму сваё тлумачэнне.

Вельмі цікава было назіраць за П.М.Машэравым на пасяджэннях бюро ЦК. На розных з'ездах, пленумах, партыйна-савецкіх актывах і нарадах ён быў вельмі афіцыйны, строгі, нават недаступны. А на пасяджэннях бюро, як бы мовіць, у вузкім коле сатаварышаў і паплечнікаў, станавіўся сам сабою, хоць талент свой акцёрскі эксплуатаваў напоўніцу. Сярод сваіх ярка праяўляліся яго гумар, дабрыня, насмешлівасць і нават з'едлівасць, а часам і жорсткасць, калі таго вымагала сітуацыя. Першы, ён і быў Першым. Жорсткім, помслівым і па-сапраўднаму злым я яго не бачыў за выключэннем аднаго разу, але пра гэта ніжэй.

Сустрэч былі дзясяткі, асабліва падчас майго загадвання аддзелам культуры ЦК, а магчымасцяў назіраць і слухаць непасрэдна — многія сотні. І пакінуўшы ЦК, я меў магчымасць сустракацца з Пятром Міронавічам не раз і найчасцей па справах энцыклапедычных, у прыватнасці, па справах 140-томнага выдання гісторыка-дакументальных хронік "Памяць", атакі шавіністаў і манкуртаў, якія не спыніліся да сённяшняга дня.

З замалёвак на пасяджэннях бюро ЦК перакажу толькі адну. Яна характэрная. Абмяркоўвалася пытанне аб правале будаўніцтва і зрыве тэрмінаў уводу ў дзеянне нейкага вельмі важнага аб'екта, а якога — не называлася. Хутчэй за ўсё, гэта быў ваенны аб'ект, якімі сёння даволі густа нафаршыравана зямля беларуская. Справаздачу трымаў міністр будаўніцтва Архіпец — вопытны, біты і стрэляны будаўнік, які не толькі нешта правальваў, але і многа будаваў добрага і грунтоўнага. Толькі тое, што здарылася з аб'ектам "ікс", выходзіла за звычайныя рамкі звычайных правалаў, з-за чаго ўсчуванне, і, відаць, не малое, атрымаў сам Першы ад маскоўскіх найпершасных. Па сур'ёзнасці, напорыстасці і з'едлівасці даклада Пятра Міронавіча гэта адчувалася паміж слоў жорсткіх і бескампрамісных.

— Вы, паважаны таварыш міністр, падвялі не толькі сябе, але ўсю рэспубліку і мяне асабіста. А я вам верыў! Я вас заўсёды падтрымліваў і абараняў! А вы мяне проста прадалі! І я ўношу прапанову: за зрыў тэрмінаў уводу ў строй аб'екта асобай дзяржаўнай важнасці не толькі зняць вас з пасады міністра, але і выключыць з партыі. У іншыя часы за такі правал вы заплацілі б жыццём!

*(Працяг на 6-й стар.)*

АСОБЫ

# «Цяпер я ведаю...»

(Пачатак на 5-й стар.)

У зале стала вельмі ціха. Неяк зусім знік і ўвабраў галаву ў плечы Архіпец. Машэраў папрасіў членаў бюро выказацца і даць аб'ектыўную ацэнку ганебнаму факту І тыя выказаліся, нібы яны былі не члены партыйнага камітэта, а суддзі трыбунала. Ацэнкі іх былі на многа больш суровымі і жорсткімі, чым у дакладчыка. І вядома ж, усе далучыліся да прапановы Першага аб зняцці міністра з работы і безумоўным выключэнні з партыі. Маўчала толькі кандыдат у члены бюро Н.Л.Сняжкова — намеснік старшыні Савета Міністраў.

— Прашу вас, Ніна Лявонаўна, выказацца, хоць вы і маеце дарадчы голас! — неяк нязвыкла сурова сказаў П.М.Машэраў.

— Я супраць такіх жорсткіх санкцый, — сказала Ніна Лявонаўна і села на сваё месца.

Здзіўлена і незадаволена загудзелі члены бюро. А потым зноў усталявалася прыкрая цішыня. Пётр Міронавіч выкарыстаў яе і голасам чалавека, які сумняваецца, сказаў:

— А можа, мы, мужыкі, сапраўды перагінаем палку? І Архіпец не адзін вінаваты ў тым, што здарылася, — націснуў ён на слова "не адзін". — І дзе раней былі члены бюро, якія са мною так лёгка пагадзіліся? — і на яго твары з'явілася хітраватая і нават саркастычная ўсмешка. — І наогул, ці варта нам так лёгка кідацца такімі камуністамі?

Зноў стала ціха. Члены бюро былі ў разгубленасці. Машэраў унёс новую прапанову: міністра ад пасады адхіліць, але ў партыі пакінуць. Члены зноў пагадзіліся, а кандыдат Сняжкова зноў спакойна сказала:

— Я супраць. У таварыша Архіпца ёсць усе магчымасці выправіць становішча. Бюро магло б, як мне здаецца, абмежавацца аб'яўленнем вымовы з занясеннем ва ўліковую картку.

Архіпец падняў галаву, уважліва абвёў позіркам прысутных, але ад нейкіх слоў устрымаўся, хоць і павесялеў.

— Тады дадзім апошняе слова абвінавачанаму, — сказаў Пётр Міронавіч мяккім добразычлівым голасам і не без хітрынкі паглядзеў на членаў бюро.

Архіпец цяжка падняўся з крэсла і пасля доўгай паўзы глухім голасам, які перарываўся хрыпатцой, вымавіў:

— У мяне заўтра дзень нараджэння, і дата прыгожая, а вы замест таго, каб мне ордэн уручыць, з работы здымаеце... з вымовай.

Ён не паспеў дагаварыць, бо Машэраў гучна і гарэзліва засмяяўся, а паглядзеўшы на разгубленых і збітых з панталыку членаў бюро, спытаў:

— А можа, нам абмежавацца абмеркаваннем, калі Ніна Лявонаўна здыме сваю прапанову наконт вымовы?

— Я сваю здыму, калі вы сваю здымеце.

Цяпер ужо смяяліся ўсе, хоць і не ўсе здагадаліся, што Першы даў ім добры ўрок прынцыповасці і прыстойнасці паводзін, калі вырашаўся лёс чалавека, і не проста чалавека, а іх сябра, аднапартыйца, аднадумца.

Я занатоўваў у блакнот сцэнку, а Пётр Міронавіч заўважыў гэта і на імгненне спыніў на мне позірк. Гэта не ўслізнула ад загадчыка ідэалагічнага аддзела Савелія Паўлава — мы сядзелі побач, — і ён саркастычна выціснуў:

— Мальер на бюро...

Гэта было так нечакана, што я не знайшоўся, як адказаць, нібы пагадзіўся, а ён падкрэсліў у маім праекце нейкай чарговай пастановы фразу "музыкальныя салоны на сяле" і зноў здзекліва:

— Таксама мне прыдумалі тэрмін — "музыкальныя салоны"...

— А чым кепскі тэрмін?

— Ён не кепскі, а буржуазны, — быў знішчальны адказ.

— Калі мы з вамі давядзём музыкальную культуру на сяле да ўзроўню буржуазнай, лічыце, што сваю місію мы выканалі на "выдатна".

Настала яго чарга папярхнуцца. Ні ён мяне, ні я яго больш ніколі не чапалі, хто б з нас і што ні занатоўваў, седзячы на бюро ЦК.

...Выпадак, калі Пётр Міронавіч прыйшоў у ярасць, здарыўся пры разглядзе надзвычайнай сітуацыі, звязанай з масавымі пажарамі на Палессі. Міністэрства ўнутраных спраў хавала інфармацыю пра гэта. Маўчалі абласныя і раённыя начальнікі. Выявілася ўсё вельмі нечакана, калі Пётр Міронавіч парушыў свой маршрут, і верталёт завітаў на Палессе. Ён быў літаральна шакіраваны разгулам вогненнай стыхіі. Гарэлі лясы, палі, тарфянікі, сенажаці і ўсё іншае, што магло гарэць.

— Я здыму з вас разам з генеральскімі пагонамі і штаны з лампасамі! — крычаў ён на міністра ўнутраных спраў Генадзя Мікалаевіча Жабіцкага.

Але, як кажуць, з вялікага грому атрымаўся малы дождж. Генеральскія пагоны ў міністра засталіся на мундзіры, а штаны на тым месцы, дзе ім і належыць быць. Гром заціх, а моцныя зацяжныя дажджы пагасілі пажары і без пажарнікаў. А што згарэла, тое згарэла. Яно і зараз гарыць штогод. І зорак на пагонах генералаў і палкоўнікаў ад таго не памяншаецца, а нават наадварот... І ахвотнікаў сушыць Палессе не паменела...

...Шчодра сыпаліся зоркі-званні і на мінскіх архітэктараў, якія, будуючы новую сталіцу, рушылі і разбуралі ўсё тое, што было пабудавана за 3—4 стагоддзі да іх. Знішчаліся цэлыя вуліцы старой забудовы, узрываліся цэрквы, касцёлы і нават першы гарадскі тэатр, што стаяў на плошчы Свабоды, пайшоў пад бульдозер. Здаецца, гэта была апошняя ахвяра дурноце, якую паднёс Малоху сакратар ЦК Барташэвіч, перамогшы ў гэтай ганебнай справе сакратара ЦК Кузьміна, які абараняў тэатр.

Але гэты выпадак быў ужо пасля П.М.Машэрава. Пры ім і з яго згоды вандалы зруйнавалі старую Нямігу — адзіную гістарычную суцэльную забудову, што ацалела ад войнаў. Ніхто не палічыўся з тым, што ў час нямецка-фашысцкай акупацыі тут было яўрэйскае гета, што менавіта адсюль пайшлі на смерць да знакамітай "ямы" дзясяткі тысяч людзей. Разбурана была і старэйшая сінагога Мінска. Цяпер на яе друзе стаіць вышынная будыніна, што прыціснула сваёй масіўнасцю два праваслаўныя і адзін каталіцкі храмы. Адзін з іх дадушыў ужо ў апошнія гады архітэктурны "помнік", на якім сёння красуецца шыльда "Империя".

А што ж Няміга? А нічога людскага. Была вуліцаю, а стала пустэчаю. І хто ведае, што яшчэ будзе "возведено" на другі бок ад універсама. Кажуць, што праектуецца гіганцкі гараж-паркінг. Усё можа быць, гэта ў нашым стылі. Адно ясна: аднаўляць Нямігу, як у Варшаве аднаўлялі Стара мяста, ужо ніхто і ніколі не будзе.

Памятаю, што руйнаванне Нямігі вельмі ўзрушыла творчую і навуковую інтэлігенцыю горада. Першым пісьмопратэст у ЦК прыйшло ад навукоўцаў Інстытута фізікі Акадэміі навук. Яго падпісалі больш за 150 чалавек. Потым такія пісьмы пайшлі касякамі. Усе яны збіраліся ў мяне, а я не ведаў, што з імі рабіць, бо быў згодны з іх аўтарамі. Не памятаю цяпер — ці то непасрэднае начальства мяне падставіла, ці я па ўласнай ініцыятыве трапіў пад руку Пятра Міронавіча з гэтымі пісьмамі. Даўшы маёй папцы неабходнае паскарэнне, каб яна магла прыехаць да мяне па паліраваным стале, ён вельмі адчужана і незадаволена сказаў:

— Няхай фізікі займаюцца фізікай, а лірыкі — лірыкай! А калі некаму з іх шкада клапоўнікаў на Нямізе, няхай пераселяцца туды з сваіх шыкоўных кватэр. (Відаць, ён лічыў, што фізікі і лірыкі жывуць у шыкоўных кватэрах.) Думаю, што жыхары Нямігі пярэчыць супраць абмену не будуць. Так і скажыце аўтарам гэтых пісем.

З гэтым я і выйшаў. З аўтарамі, канешне, не гаварыў. Пісьмы тыя першы памочнік Машэрава Крукаў спісаў у архіў, а Нямігу нашы "зодчие" ператварылі ў руіны. Там і фільм здымалі "Руіны страляюць ва ўпор". Можна сказаць: ва ўпор стралялі па сваім мінулым, па сваёй гістарычнай памяці... Але то была кіношная вайна, а не бой з герастратамі. Герастраты па тым часе хадзілі ў героях. Замах на Верхні горад сталіцы зрабілі з помпай, з папярэдняй артпадрыхтоўкай па начальству. У зале бюро ЦК былі развешаны прыгожыя малюнкі і планы "рэканструкцыі" Верхняга горада. Тут жа на шырокім стале стаялі макеты і фрагменты макетаў горада. На адным планшэце велізарных памераў была намалявана лесвіца-спуск ад Цэнтральнай плошчы да Нямігі. Яна па-сапраўднаму ўражвала грандыёзнасцю задумы.

Сабраліся айцы горада, кіраўнікі сталічнай вобласці і, вядома ж, "цвет" саюза "зодчых". Выйшаў са сваёй бакоўкі Пётр Міронавіч і члены бюро ЦК. Настрой у яго быў цудоўны. Гэта адразу ж перадалося іншым. Галоўны архітэктар горада зрабіў бліскучы даклад-прадстаўленне праекта, яго аўтары выступілі з судакладамі. Асноўным "высакародным" памкненнем вандалаў было жаданне "распахнуть", як яны казалі, Цэнтральную плошчу (сёння — Кастрычніцкая плошча) на пойму Свіслачы, зялёную зону, Мінскае возера, а галоўнае — на забудову Паркавай магістралі. Праекты забудовы яе на той час ужо былі абнародаваны. Архітэктары даказвалі, што такой "распахнутой" плошчы яшчэ няма нідзе ў свеце, што гэта будзе нейкая своеасаблівая аглядальная пляцоўка навакольнага характа, якое яны абяцалі стварыць. На месцы зруйнаванага Верхняга горада планавалі збудаваць лесвіцу з фантанамі, "як у Пецяргофе".

Словам, "энтузіясты" здолелі многім замыліць акуляры. Без цяжкасцяў удалося ім пераканаць і Пятра Міронавіча.

Над гістарычнай рэліквіяй сталіцы навісла смяротная небяспека. А архітэктары бесцырымонна прыспешвалі начальства, усімі сродкамі прапагандавалі "праект веку". А ў ЦК КПБ зноў пачалі ісці калектыўныя пісьмы-пратэсты супраць новай разбуральнай акцыі. Гэта нервавала Машэрава, але ён не спяшаўся адступіць ад свайго рашэння знесці Верхні горад. Надзвычай жа прыгожыя былі малюнкі, падрыхтаваныя архітэктарамі. Падтрымалі ідэю замяніць Верхні горад на лесвіцу з фантанамі і многія іншыя кіраўнікі рэспублікі і горада.

І тут я пайшоў на авантуру, бо быў перакананы, што розум і разважлівасць людская пераможуць, павінны перамагчы. Знайшоў геадэзіста з тэадалітам і папрасіў яго зрабіць "прастрэлы" праз контур-схему Верхняга горада з розных пунктаў плошчы і нават з урадавай трыбуны. Той даволі аператыўна зрабіў планшэт, з якога вынікала, што можна будзе ўбачыць з плошчы, калі разбурыць Верхні горад. Аказалася, калі гэта зрабіць, то можна будзе бачыць глухую сцяну манастыра, царкву і комін старой кацельні другой клінічнай бальніцы, што па вуліцы Горкага (цяпер вуліца Максіма Багдановіча).

Перш чым ісці да Пятра Міронавіча, зайшоў я з планшэтам да Аляксандра Трыфанавіча Кузьміна — сакратара ЦК па ідэалогіі. У гутарцы адчуў, што ён падзяляе і маю трывогу, і маю настырнасць. Каб не парушаць субардынацыі, сказаў, што хачу паказаць Пятру Міронавічу не толькі планшэт, але і макет адбудовы і рэстаўрацыі Верхняга горада, па-майстэрску зроблены групай маладых архітэктараў-энтузіястаў з апісаннем таго, як адрэстаўраваны Верхні горад можа быць выкарыстаны ў культурных мэтах. (Як гэта ні дзіўна, а былі і такія архітэктары.)

Аляксандр Трыфанавіч быў лаканічным, толькі і сказаў:

— Хочаш звярнуць сабе шыю, тады ідзі, — і дадаў: — Пётр Міронавіч не адступае ад сваіх рашэнняў.

І я пайшоў... Пётр Міронавіч з паўгадзіны моўчкі разглядаў то планшэт, то макет. Курыў адну цыгарэту за другой. А потым толькі і сказаў: "Ну, ладна..."

І правёў некалькі сустрэч з радавымі, але па-сапраўднаму руплівымі за зберажэнне нацыянальнай спадчыны архітэктарамі, мастакамі, археолагамі, гісторыкамі і пісьменнікамі. Пра адну з іх мне ведама. У ёй узялі ўдзел архітэктар Анатоль Занеўскі, мастак Віктар Кастанюк, археолаг Міхась Чарняўскі, пісьменнік Уладзімір Караткевіч і намеснік старшыні Савета Міністраў Ніна Сняжкова, якая вяла пытанні культуры. Размова на той сустрэчы атрымалася грунтоўнай, шчырай, зацікаўленай і прынцыповай. Запрошаныя ў адзін голас адстойвалі Верхні горад і шкадавалі разбураную Нямігу. Віктар Кастанюк і Анатоль Занеўскі расказалі Пятру Міронавічу пра абуральны факт, калі па ўказанні галоўнага архітэктара Мінска Юрыя Грыгор'ева з выставы архітэктурных праектаў забудовы Мінска быў зняты дэталёва распрацаваны вялікі (2х2 метры) макет адрэстаўраванага Верхняга горада, каб ён як-небудзь не перашкодзіў аматарам "распахнуть" Цэнтральную плошчу.

Пётр Міронавіч бачыў тую выставу і той вернуты на яе макет Верхняга горада. Мне стала зразумела акцыя маладых архітэктараў і мастакоў з малым макетам. А Пётр Міронавіч адступіў ад сваёй згоды на разбурэнне Верхняга горада. Хоць, на вялікі жаль, пасля яго амаль разбурылі, а на Цэнтральную плошчу пасадзілі "саркафаг", які і засланіў сабою тое, што ад гістарычнай забудовы яшчэ засталося ў чаканні свайго канца.

Іншы раз думаеш: каб тыя, хто акружаў Першага, менш баяліся за свае шыі і пасады, то многае ўдалося б зберагчы з нашай багатай, але ж не бяздоннай спадчыны.

Дарэчы, пра "саркафаг". Калі Пётр Міронавіч ахаладзеў да ідэі "распахивать" Цэнтральную плошчу за кошт разбурэння Верхняга горада, ён даручыў паасобку А.Т.Кузьміну і мне падшукаць месца для "пасадкі" Палаца Рэспублікі. Не згаворваючыся, мы назвалі адно і тое месца — вышыню паміж Паркавай магістраллю (цяпер праспект Пераможцаў) і Свіслаччу, дзе цяпер узвышаецца помнік гораду-герою Мінску. Пётр Міронавіч пагадзіўся з нашымі прапановамі, але ўзвесці тут будыніну яму не было наканавана. Цэнтральную плошчу загубіў яго наступнік Ц.Я.Кісялёў. Густы начальнікаў неспавядзімы, калі не грэх так перайначваць афарызмы з Святога Пісання.

Даступнасць, дэмакратызм, разважлівасць Пятра Міронавіча дазвалялі многім вырашаць з ім самыя складаныя пытанні і праблемы. Але ж не з кожным пытаннем і праблемай можна было дабегчы да яго. І тым не менш, заняты вышэй галавы, ён не закрываў свае дзверы наглуха. Наадварот, іншы раз здавалася, што ён рады твайму прыходу. Можа, гэтак здавалася ад яго выхаванасці і інтэлігентнасці, а можа, і не толькі ад гэтага. Неяк аднойчы, калі я зайшоў з нейкім пытаннем ці за парадаю, ён апярэдзіў мяне і з ціхім сумам сказаў:

— Толькі што пазваніў Грышын, член Палітбюро, і папрасіў... вельмі настойліва папрасіў, каб я прыслаў яму пад Новы год дзевяць тысяч малочных, распатрошаных парасятак, — і змоўк, а потым: — І самае гнюснае ў тым, што я пашлю яму гэтых парасятак, — і больш ні слова пра тую просьбу, а толькі да мяне: — Што ў цябе?..

Гадоў праз пятнаццаць пасля гэтага былы памочнік другога сакратара ЦК КПБ ад сябе расказаў пра тых загубленых парасятак, якіх, вядома ж, адправілі ў Маскву пад нейкае свята. А я сёння думаю, чаму Пётр Міронавіч сказаў мне пра тых парасятак і што ў яго было на душы ў той час? Якія яшчэ словы не зляцелі з вуснаў? Бо не толькі я ведаў пра гаспадарлівасць, беражлівасць, нарэшце, пачуццё ўласнай годнасці гэтага чалавека, якое было нахабна абражана высокапастаўленым, магутным хамам.

Парасяткі — гэта толькі дробны прыклад маскоўскага нахабства. А што да сапраўднага эканамічнага рабаўніцтва, то яно ўзмацнялася з года ў год. Прапітай метраполіі трэба было нечым закусваць. Масква патрабавала ўсё большых і большых паставак мяса, масла, каўбас, вяндліны, садавіны, агародніны, грыбоў, ягад і іншых прысмакаў На поўную моц дзень і ноч працавалі заводы і фабрыкі Беларусі, каб узброіць і адзець Савецкую Армію, якая к таму часу ўжо ўляпалася ў вайну з Афганістанам і аказвала "інтэрнацыянальную дапамогу" цэлым кантынентам.

Патрабаванні да беларускага ўлуса былі пастаяннымі, настойлівымі, нахабнымі, а часам і гранічна цынічнымі — туды пасылаліся не парасяткі, а нашы хлопцы.

Такіх званкоў ад самых розных хамаў ён, напэўна ж, атрымліваў нямала. Метраполія была там. У нас была падмандатная тэрыторыя. Яго тонкая натура не магла гэтага не адчуваць. Адчувала, здаецца мне, і пакутавала, пазбаўленая якіх бы там ні было перспектыў на іншае абыходжанне.

Напрыканцы 70-х усё часцей і часцей можна было заўважыць кепскі настрой, самотнасць і нейкую пастаянную прыгнечанасць Пятра Міронавіча. Ён стаў хутчэй стамляцца ад уласных выступленняў нават на бюро і невялікіх нарадах, не кажучы ўжо пра доўгія афіцыйныя даклады. Стамляўся хутчэй, а гаварыў даўжэй. Некаторыя думкі паўтараў, нібы не верыў, што яго пачулі, зразумелі, прынялі. Усмешка на прыгожым, але самотным твары з'яўлялася не так часта, як раней. Пра гэта сталі пагаворваць у апараце: здае, маўляў, Першы. Чуткі, прыдумкі кадравага кшталту даляталі з Масквы. Думаю, што яны яму былі вядомы. Ні добрага настрою, ні здароўя не прыбавіла і аперацыя на нырцы. І ўсё ж гэта не было галоўнай прычынай яго прыгнечанасці, а часам і раздражнёнасці. Прычына была не столькі ў здароўі — мужнасць яго не пакідала, колькі ў маральным тэроры з боку "добразычліўцаў" з Палітбюро. Хадзілі чуткі, што яго пабойваецца, а таму і не любіць састарэлы Генсек. Не выключана, што гэтыя чуткі нараджаліся і ў асяроддзі Палітбюро, дзе кожны старац у перспектыве бачыў сябе Генеральным сакратаром, "выдающимся деятелем современности", "настоящим ленинцем". Нібы ў нас былі ці маглі быць "ненастоящие" ленінцы. Не трэба забываць і таго, што ў Палітбюро былі не толькі састарэлыя члены, але і аднагодкі Пятра Міронавіча і маладзейшыя за яго. Члены такога органа ўсё пралічвалі, па магчымасці і ў меру ўласнай "испорченности" "пакостили" адзін аднаму, выкарыстоўваючы маразматычны стан Генеральнага і подласць яго галоўнага халуя Чарненкі.

Не сакрэт, што "любоў" іх светласці састарэлых членаў да свайго маладзейшага калегі выклікала ў яго адэкватную рэакцыю. Напрыклад, Пётр Міронавіч па магчымасці не браў удзел у дэлегацыях ЦК КПСС у іншыя краіны, бо добра ведаў абмежаванасць кіраўнікоў гэтых дэлегацый. Яны ў сваю чаргу не імкнуліся трапіць у тыя дэлегацыі, якія ўзначальваў Пётр Міронавіч, бо на фоне яго адчувалі сябе нікчэмнасцю. Сваю непрыязнасць да "умника" прыхоўвалі ўсе, акрамя Чарненкі. А той, напрыклад, пасля абмеркавання ў Палітбюро 6-томнай гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, на якім П.М.Машэраў зрабіў грунтоўны даклад-разбор выдання з шэрагам крытычных заўваг і пажаданняў, мог сказаць: "Машеров, как всегда, умничает".

Можна толькі здагадвацца, што ён уводзіў у вушы Генеральнаму і як характарызаваў "умника" з правінцыі.

Цвярозасць, розум і годнасць П.М.Машэрава былі, бадай што, асноўнай прычынай таго, што яго так і не выпусцілі з кандыдатаў у члены Палітбюро, хоць ён узначальваў 600-тысячную партыйную арганізацыю і 10-мільённую рэспубліку Тут, трэба думаць, і прычына таго, што ён апошнім з кіраўнікоў саюзных рэспублік атрымаў званне Героя Сацыялістычнай Працы, хоць Беларусь займала адно з першых месцаў у развіцці эканомікі і навукова-тэхнічнага прагрэсу.

Як дзёрзкі выклік палітыцы партыі і ўрада была ўспрынята членамі Палітбюро катэгарычная нязгода кандыдата ў члены Палітбюро П.М.Машэрава з іх рашэннем на афганскую авантуру, а дакладней, агрэсіўную вайну супраць народа сумежнай краіны. З таго пасяджэння Палітбюро ён вярнуўся літаральна скрышаным, раздушаным, некалькі дзён не мог апамятацца. Брату Паўлу Міронавічу ў роспачы толькі і сказаў:

— Што яны нарабілі?! Яны нават самі не разумеюць, што адбылося! Усё рашылі 2—3 чалавекі. Астатніх нават не спыталі...

Цяпер ужо вядома, што кожная паездка ў Белакаменную была для Пятра Міронавіча пакутаю. Непрадуманая, а ў шэрагу выпадкаў абсурдная палітыка краіны, якая з-за гонкі ўзбраенняў, халоднай і гарачай вайны, развалу сельскай гаспадаркі, таталітарнага ўціску з верху да нізу фактычна спыніла яе развіццё і паставіла на край усеагульнага крызісу, катастрофы. Ці не адсюль душэўны надлом чалавека, які ўсё гэта бачыў і разумеў, але што-небудзь змяніць ці перайначыць не мог?

Меў Пётр Міронавіч і ўласныя траўмы, якія не загойваліся часам. І былі аматары ў гэтых траўмах пакалупацца, запусціць плётку, пасеяць нейкія сумневы адносна яго асобы. Першая "балячка" — рэпрэсіраваны бацька. А пра другую трэба сказаць асобна. У апараце ЦК было вядома, што былы сакратар Вілейскага падпольнага абкама партыі І.Ф.Клімаў інтрыгаваў супраць Пятра Міронавіча. Пацвердзіў гэта пісьмова былы сакратар ЦК КПБ М.Я.Аўхімовіч. У перказе і перакладзе запісу гэта гучыць так: "Не разумею, чаму Клімаў мне гаварыў у свой час, што Машэраў працаваў у немцаў настаўнікам? Няўжо гэта была інтрыга, нагавор? Можа быць".

Бачыце, Аўхімовіч сцвярджальна кажа "можа быць". Хто-хто, а ён ведаў, што Машэраў ніколі і ні ў якой нямецкай школе не працаваў. Ён выкарыстаў савецкую школу, каб часова "мець дах" для камсамольска-маладзёжнага падполля перад тым, як пайсці ў партызаны. Што да клімаўскай "вуткі", то яна невыпадкова запускалася. І.Ф.Клімаў як сакратар абкама падпісваў прадстаўленне ў Цэнтр на прысваенне П.М.Машэраву звання Героя Савецкага Саюза. Яму належыць і "жарт", што ён мог бы падпісаць гэта прадстаўленне і на любога іншага хлопца. Трэба думаць, што Клімаў не толькі ганарыўся тым, што "зрабіў" Машэрава Героем, але і выкарыстоўваў, эксплуатаваў гэту шчаслівую для сябе нагоду. А тое, што ён быў чалавекам недалёкім і, мякка кажучы, дрэнна выхаваным, ведалі і ведаюць многія. Можа, таму Аўхімовіч і пакінуў запіс пра тое, што "калі б не было такога (дзеяча), як Машэраў, то клімаўшчына захліснула б савецка-партыйны апарат".

Зразумела, у савецка-партыйным апараце працавалі далёка не святыя, але дапусціць, што яго захліснула "клімаўшчына", было б і няправільна, і несправядліва ў першую чаргу да П.М.Машэрава. Будучы чалавекам добрага гарту, ён быў строгім і рашучым у дачыненні да сваіх кадраў. І калі некага цярпеў ці вымушаны быў цярпець, то і пра свой, як цяпер кажуць, імідж клапаціўся. А рэйтынг быў вельмі высокім не толькі ў рэспубліцы, але і ў краіне. Менавіта на яго дыскрэдытацыю і была зроблена стаўка, калі Палітбюро накіравала Пятра Міронавіча на перамовы да Фідэля Кастра. Адносіны з Кубай к таму часу былі настолькі сапсаваныя, а паводзіны Палітбюро ў адносінах да "свабоднай тэрыторыі Амерыкі" былі настолькі непаслядоўнымі і неразумнымі, што Вялікі бунтар стагоддзя нікога не прымаў і нікога не хацеў бачыць з Саюза ССР.

Стаўка была бяспройгрышнай. Калі дружалюбныя адносіны з Кубай Саюзу ССР удасца аднавіць, то тым лепш будзе Саюзу. А калі місія Машэрава праваліцца, то яму і будзе горш. Па прыездзе на Востраў Свабоды сітуацыя складвалася не на карысць сустрэчы з Фідэлем. Ніякія захады не давалі плёну. Ён адмаўляўся сустракацца з кім бы то ні было з савецкіх. І толькі за лічаныя мінуты да ад'езду П.М.Машэрава дамоў партызан і нацыянальны герой Кубы Фідэль Кастра пагадзіўся сустрэцца з партызанам і нацыянальным героем Беларусі Пятром Машэравым. На сустрэчу было адведзена паўтары гадзіны. Прагаварылі партызаны больш за чатыры. Было не толькі з бляскам выканана безнадзейнае даручэнне Палітбюро, але і засведчана пабрацімства партызанаў-герояў Пятра і Фідэля. У гэтым пераканалася ўся краіна, калі Кастра Рус нанёс афіцыйны візіт у Беларусь.

Для душы нашага героя гэта была маральная перамога. На нейкі час яна аддаляла непазбежную расправу над "умником".

Уціск, залежнасць, падножкі, якія нярэдка межавалі з правакацыямі, рэгламентацыя дзеянняў ад нечага важнага да дробязяў нервавалі, непакоілі і злавалі першую асобу ў рэспубліцы, якая не магла ступіць кроку, не ўзгадніўшы яго з так званым Цэнтрам і яго чынавенствам.

Толькі адзін прыклад. Памёр галоўны рэдактар Беларускай Савецкай Энцыклапедыі Пятрусь Броўка. У Пятра Міронавіча былі да яго асобыя адносіны. Трэба было неяк увекавечыць добрую памяць аб народным паэце і заснавальніку энцыклапедычнай справы ў Беларусі. Мне давялося пісаць першасны праект прапаноў на гэты конт. Разам з іншымі меркаваннямі ўпісаў я і пра тое, што варта было б ператварыць Галоўную рэдакцыю БелСЭ ў выдавецтва і надаць яму імя Петруся Броўкі, бо "Галоўная рэдакцыя", маўляў, не гучыць...

Пятру Міронавічу спадабалася такая пастаноўка пытання, але ён без цяжкасці разгадаў "хітрасць" стварыць самастойнае энцыклапедычнае выдавецтва.

— Я згодны, што "Галоўная рэдакцыя імя Броўкі" сапраўды не гучыць і нават прыніжае. Разумею і тое, што вы хочаце замест рэдакцыі, хоць і Галоўнай, стварыць самастойнае выдавецтва. Але мы не маем права без Масквы ствараць выдавецтвы. На жаль, гэта іх прэрагатыва. А калі папросім — не дазволяць. Перакананы, што не дазволяць... А вось калі явачным парадкам нададзім выдавецтву імя Петруся Броўкі, то, можа, і не адменяць нашай пастановы. Можа, і не даруюць самавольства, але змоўчаць. Броўка ёсць Броўка, — разважаў Пётр Міронавіч услых.

З разлікам на гэта і было прынята рашэнне аб стварэнні выдавецтва імя Петруся Броўкі. Самавольства гэта выклікала непрыкрыты гнеў агітпрапа ЦК КПСС. Пастанова ЦК КПБ аб выдавецтве БелСЭ была адменена. Агонь на сябе прыняў агітпрап на чале з А.Т.Кузьміным.

Якое там выдавецтва?! Мы звычайнай брашуры, не кажучы пра энцыклапедыі, не мелі права выдаць без блаславення Белакаменнай. А хіба толькі энцыклапедыі Беларусь не магла рабіць без "высочайшего" дазволу? Праект тапарышча, лапаты ці рэцэпт торта трэба было ўзгадняць з саюзнымі інстытутамі. Можна з дакладнасцю меркаваць, якія пачуцці ўсё гэта выклікала ў кіраўніка "самастойнай" Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Многія цэкоўцы ведалі, якія страсці-мардасці бушавалі ў ЦК КПСС пасля знакамітага пленума ЦК КПБ, які абмеркаваў даклад П.М.Машэрава аб бядотным стане сельскай гаспадаркі і яго прапановы аб карэнных зменах падыходу дзяржавы да гэтай галіны народнай гаспадаркі. Даклад заняў у газетах некалькі палос. Яго фрагменты з каментарыямі былі перадрукаваны ў шэрагу замежных уплывовых газет, перададзены замежнымі радыёстанцыямі. Такія рэчы не дараваліся нікому.

А як магла адчуваць сябе Першая асоба ў непарушным саюзе рэспублік "свободных", пазбаўленая свабоды як у маральным плане, так і ў элементарных дзеяннях, пастаўленая ў ганебную залежнасць ад крамлёўскіх "небожителей", пазбаўленая хоць якой-небудзь самастойнай дзейнасці і ўласнага волевыяўлення ў невымерна вялікім таталітарным калгасе пад назвай СССР. Яшчэ адзін красамоўны факт.

У гонар 25-й гадавіны вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў Пётр Міронавіч рашыў зрабіць ветэранам вайны падарунак і тым самым выказаць прыязнасць да абаронцаў Айчыны і сваёй уладай адмяніў для іх аплату праезду ў гарадскім транспарце. Гэты фактычна сімвалічны, а не фінансавы акт не наносіў ніякіх страт Саюзу ССР і яго эканамічнай устойлівасці, бо білет на трамвай каштаваў 3 капейкі, а на тралейбус — 4. А якое абурэнне выклікаў у Белакаменнай! Як пасмеў?! Хто даў права самастойна прымаць такія "сепаратысцкія" рашэнні, праяўляць такую нечуваную самастойнасць?! І пакарысталіся былыя франтавікі і партызаны падарункам толькі некалькі дзён — пакуль Масква выхоўвала Мінск у паслухмянасці, пакоры і прыніжэнні.

Мне сёння здаецца, што ад дурноты сваіх маскоўскіх шэфаў Пётр Міронавіч часам ратаваўся ў вельмі звычайных, чалавечых, добрых справах. На ўсіх яго не хапіла, але паасобным людзям усё ж шанцавала. А можа, і ён тады-сяды гуляў у дэмакрата, бо ў гэтую гульню і да сёння, і сёння гуляюць усе правадырыправіцелі без выключэння — толькі адны гуляюць таленавіта, а другія бяздарна.

Аднаго разу Пётр Міронавіч прызнаўся:

— Прыслаў мне пісьмо рускі паэт Віктар Бокаў. Мы з ім не былі знаёмы ні асабіста, ні праз яго паэзію. Давялося прачытаць тое, што знайшоў. Паэзія аказалася проста выдатнай — глыбокай, лірычнай, нейкай асабліва шчымлівай. Многае проста хацелася завучыць на памяць. Словам, усхвалявала па-сапраўднаму. Даўно не адчуваў такога душэўнага ўзрушэння. А можа, добрыя вершы пад настрой трапілі... рашыў я напісаць пісьмо Бокаву.

Атрымалася яно даволі доўгім, нешта накшталт рэцэнзіі, толькі вельмі ўзнёслай. Калі астыў і перачытаў, рашыў опус свой не пасылаць. Пабаяўся, што паэт можа падумаць: чаго гэта ён, партыйны функцыянер, узяўся мае вершы аналізаваць.

Карацей кажучы, усумніўся. А да цябе будзе такая просьба... Бокаў піша, што сустрэўся яму недзе ў тайзе надзвычай цікавы і таленавіты малады мастак. Каранямі з Беларусі. Хацеў бы вярнуцца на зямлю продкаў. Часова прыпыніўся ў Мінску. Просіць знайсці яму хоць які вугал пад жытло і майстэрню. Пераконвае, што не пашкадуем.

Паэты — народ шчыры. А такога ўзроўню, як Віктар Бокаў, хлусіць не будзе. Словам, знайдзі мастака, пазнаёмся, усё вывучы, потым уражаннем сваім са мною падзелішся.

Знайшоў я таго мастака. Аказаўся ён вельмі маладым і даволі сціплым хлопцам. Паказаў некалькі сваіх работ і цэлы канверт слайдаў з іншых твораў, што засталіся ў Сібіры. Тыя слайды я і прынёс Пятру Міронавічу. Многае яму спадабалася, нешта падалося незавершаным, эскізным, але цікавым па задуме... Вырашана было падтрымаць юнака і хадайнічаць перад гарвыканкамам аб аднапакаёвай кватэры. У хуткім часе да кватэры ўдалося знайсці і галубніцу для майстэрні.

Прайшло пасля таго месяцы дватры, і прыйшоў да мяне мастак з невялічкай карцінай, акантаванай у просценькую рамку. Назавём яе ўмоўна "Балерына перад выхадам на сцэну". Творца і наважыўся падарыць яе Пятру Міронавічу. На добрую памяць.

Гэта ўжо было больш складана, чым здабыць кватэру. Як Пётр Міронавіч успрыме сам факт дарэння? Ці не шуганё ён мяне разам з мастацкім творам? І я пайшоў на маленькую хітрасць. Званю Пятру Міронавічу і кажу, што прыйшоў бокаўскі мастак, цікавую карцінку прынёс. Можа, ёсць час паглядзець?

— Ты ж мяне не ў карцінную галерэю запрашаеш. А на адну карціну час знайду. Заходзь.

Я пайшоў адзін, прыхапіўшы карціну.

— А дзе мастак? — пытае.

— У прыёмнай, — кажу і адразу паказваю твор, каб ён на час забыўся пра мастака.

— Выдатная работа. І дзяўчына прыгожая. — І ўжо ў захапленні: — Умеюць жа людзі падгледзець такое хараство! І як падгледзець!.. Талент! Безумоўна талент! Кліч, я яго павіншую... Далібог харошая работа!

— Справа ў тым, — кажу,— што гэту работу ён хоча падараваць вам... Але вельмі саромеецца.

— Як падараваць? — губляецца Пётр Міронавіч. — Ты з гэтым не жартуй! Я ў майстэрнях многіх мастакоў пабываў, але такога не было...

— Ну, а гэты сам прынёс, — спрабую я звесці гаворку на жарт. — Не возьмеце — пакрыўдзіце хлопца. Ён мне паказаўся вельмі шчырым і даволі баязлівым. Не прыме, кажа, Пётр Міронавіч падарунак — згару ад сораму.

— А ты згарэць не баішся?

Раімся, як лепш паступіць. Я пераконваю, што няма тут нічога незвычайнага ці страшнага. Чалавек хоча выказаць сваю павагу. І падарунак зроблены яго ўласнымі рукамі. Бачу, у такой сітуацыі Пётр Міронавіч, бадай што, ніколі не быў. І прынцыпаў сваіх мяняць не хоча, і хлопца пакрыўдзіць баіцца. Урэшце ён здаецца на мае ўгаворы і сам ідзе ў прыёмную, каб запрасіць госця да сябе. Дзякаваць Богу, усё заканчваецца лепшым чынам. Сёння гэта карціна адзінока і сіратліва вісіць у адным з пакояў яго былой гарадской кватэры.

П.М.Машэраў разбіраўся і ў прозе, і ў паэзіі, і ў оперы, і ў балеце, і ў жывапісе. Ён не жаліўся, як гэта робяць яго "спадкаемцы", на занятасць дзяржаўнымі справамі. Многа чытаў, праглядаў усе фільмы нашай кінастудыі, не прапускаў цікавыя спектаклі, наведваў усе больш-менш значныя выставы, шчыра радаваўся ўдачам творчых людзей. Напярэдадні першага паказу знакамітай серыі карцін Міхаіла Андрэевіча Савіцкага "Лічбы на сэрцы" пазваніў мне па ўнутраным тэлефоне, сказаў, што зараз жа едзем у Палац мастацтва паглядзець экспазіцыю выставы да яе адкрыцця, што пра паездку пакуль ніхто не павінен ведаць. (Пра карціны было многа размоў, і Пётр Міронавіч нікога лішняга не хацеў бачыць у зале Палаца.) Мінут пяць-сем у нас пайшло на пераезд ад ЦК да Палаца. Мінут пяць у зале не было нікога, апрача мастацтвазнаўца Эмы Грамыкі. Пётр Міронавіч паздароўкаўся з ёю, але просьбу правесці экскурсію не выказаў. Ад карціны да карціны прайшоў адзін. Да некаторых вяртаўся і зноў ішоў далей да новых твораў, а іх было больш за 10. У гэты момант у зале з'явіўся адзін, а потым і другі мастак, і яшчэ адзін "аматар" выяўленчага мастацтва. Пётр Міронавіч незадаволена паморшчыўся. Відаць, якраз іх ён і не хацеў тут бачыць. Усе трое бесцырымонна абкружылі яго і пачалі даваць свае знішчальныя каментарыі работам Савіцкага. Бестактоўнасць і некарэктнасць "крытыкаў" абурыла Пятра Міронавіча, і ён рэзка перапыніў няпрошаных субяседнікаў:

— Дзякуй! Як-небудзь сам разбяруся, — і ўжо мякка і добразычліва да Эмы Грамыкі: — А калі не здолею, мне дапаможа вось гэтая мілая жанчына, — і ўзяў яе пад руку.



Фота Юрыя ІВАНОВА.

*(Працяг будзе.)*

**Алесь ПЕТРАШКЕВІЧ.**

**НЕ ПРАПУСЦІЦЕ!**

## У Купалаўскім ажывілі герояў шляхецкай Польшчы

*Сёння на сцэне мінскага тэатра імя Я.Купалы адбудзецца прэзентацыя беларускамоўных версій п'ес "Помста" і "Дзявочыя зарокі" польскага паэта і камедыёграфа Аляксандра Фрэдры.*

Прэзентацыя беларускага выдання твораў геніяльнага пісьменніка эпохі рамантызму адбудзецца ў рамках Месяца польскай літаратуры, арганізаванага сумесна выдавецтвам "ЛогвінаЎ" і Польскім інстытутам у Мінску. У сустрэчы, якую будзе весці **Лявон Баршчэўскі**, прымуць удзел перакладчыкі гэтых вядомых твораў — **Андрэй Хадановіч і Марыя Мартысевіч**, а таксама акцёры Купалаўскага тэатра. Свайго роду сюрпрызам прэзентацыі стане пастаноўка фрагментаў згаданых п'ес у выкананні акцёраў Тэатра імя Я.Купалы, рэжысёр — **Мікалай Пінігін**. Сустрэчы адбудуцца на рэпетыцыйнай сцэне Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы 22 кастрычніка ў 18.00. Уваход вольны!

**РАНДЭВУ**

## У Мінск прыедзе скандальны французскі пісьменнік



*Аўтар кніг, якія сталі культавымі на пачатку нулявых па ўсім свеце, француз Фрэдэрык Бегбедэр прыедзе ў Беларусь з выступленнем.*

Сучасныя беларусы не самыя вялікія аматары хадзіць на сустрэчы з пісьменнікамі. Між тым, калі размова заходзіць аб спатканні з замежнай зоркай, нашы людзі не шкадуюць грошай і часу. Вось і навіна аб тым, што ў сталічным клубе BlackHall Bar выступіць Фрэдэрык Бегбедэр, хутка разышлася па Мінску. Праўда, прыедзе пісьменнік, рэкламшчык і палітолаг не з дакладам аб новых і старых творах, а з dj-сэтам. Музыкай спадар Бегбедэр пачаў захапляцца даўно. Ён выступаў на многіх еўрапейскіх пляцоўках, а ў хуткім часе прадэманструе сваё майстэрства ў Мінску, Маскве і Кіеве. Пакуль іншых падрабязнасцяў аб візіце французскай знакамітасці няма.

Заслужаную славу аднаго з самых цікавых сучасных французскіх пісьменнікаў Фрэдэрыку Бегбедэру прынеслі раманы "Вакацыі ў коме", "Каханне жыве тры гады", "Аповеды пад экстазі" , "Рамантычны эгаіст", "99 франкаў", якія стаў лідарам кніжных продажаў 2000 года ў Францыі.

**Сяргей ШЭЛЕСТ.**

**ОЧЕНЬ ЛИЧНОЕ**

*Нелли ДОБРОЛЮБОВА:*

# «Не каждому дано любить...»

*Сегодня, 22 октября, исполнилось бы 80 лет народному артисту, известному режиссеру Игорю Добролюбову. Он умер чуть больше трех лет назад. "Народная Воля" навестила вдову Игоря Михайловича. Как оказалось, за эти годы Нелли Ивановна пережила еще одну страшную потерю...*

## С первого взгляда — и на всю жизнь!

*Их познакомил оператор Георгий Вдовенков, с которым Добролюбов делал картину "Мост".*

— Я в звукоцехе тогда работала, — *вспоминает Нелли Ивановна*. — И как-то шли с коллегами по проспекту, мимо гостиницы "Минск". На мне была кофточка черная с белым кантиком, и под шеей — расстегнутые пуговички. Игорь, которого Вдовенков познакомил с нашей компанией, догоняет меня и говорит: "Давайте я застегну!"

Потом мы встречались на киностудии. Я как услышу — в коридоре раздается бас, тут же беру коробки и выхожу с ними в коридор — будто мне куда-то надо их отнести. Мы встречались, разговаривали, хохотали. Он много стихов читал мне...

Наши отношения очень быстро развивались. Можно сказать, что это была любовь с первого взгляда...

Честно говоря, я сразу на него положила глаз. Игорь был очень неординарным. У него голос такой заметный. Он был не такой, как все, даже внешне. Очень симпатичный. Всегда модненько одевался, выделялся из толпы. И я его сразу заметила...

**— Игорь Михайлович и с возрастом не утратил привлекательности. Не ревновали его?**

— Очень! Помню, он как актер снимался в картине вместе с актрисой Александрой Назаровой — у них была сцена на пляже. Боже мой, как я ревновала!..

**— Скандалы устраивали?**

— Мы вообще не ссорились. Никогда.

**— Разве так бывает, чтобы за всю жизнь — ни разу?**

— Одно время он стал выпивать. И когда встал вопрос, я предложила: "Игорь, у нас дети, давай просто тихо расстанемся". После этого на месяц уехала с детьми на натурплощадку. Игорь к нам туда приезжал. А когда мы вернулись, навсегда завязал с алкоголем. Дети и семья для него много значили...

Правда, к жизни он был абсолютно не приспособленный — мог сделать себе яичницу и сварить пельмени. На этом его кулинарные способности заканчивались.

**— Это вы его так разбаловали?**

— У него мать была очень хлебосольной хозяйкой. Потом я готовила, так что у него не было необходимости всем этим заниматься. Он был совсем не привередлив в еде: что приготовлю, то и съест. Правда, посуду не мыл. Но я принимала это как должное. Думаю: Боже мой, у него столько работы, в голове все время эти сценарии, зачем ему все это? Я очень уважительно к нему относилась...

Но при этом у него были золотые руки. Он по дому почти все делал сам, и на даче тоже.

А что касается ссор, то у нас просто не было споров. По характеру я такая, что какое-то замечание скажу не тогда, когда мне хочется, а когда он его действительно услышит. И поймет.

**— Социологи говорят, что сегодня в семьях чаще всего из-за денег отношения выясняют...**

— Игорь к деньгам относился просто: отдавал мне все до копейки. Я говорю: "Оставь себе хоть пять рублей! Ты же мужчина, у тебя должны быть деньги!" "Обойдусь", — отвечал он.

Он отдавал мне все постановочные, и год мог вообще ничего не получать! Мы с двумя детьми жили на мою зарплату. Он писал сценарии, с Владимиром Короткевичем работал над "Гневное солнце палящее". Одна инстанция утверждала, другая думала, третья обсуждала... И это месяцами, годами длилось!

Я его ни разу не упрекнула, что у нас трудности с деньгами. Были дни, когда только дети могли есть. Апельсин лежал, но ни я, ни он к нему не притрагивались, потому что это для детей...

Со временем я стала неплохо зарабатывать — была начальником звукоцеха на киностудии, а это традиционно мужская должность, и зарплата была неплохой.

**— Сегодня роман режиссера с актрисой — не редкость. А у Добролюбова в картинах снимались красавицы: Маргарита Терехова, Светлана Окружная, Ирина Бразговка, Галина Польских...**

— Если он за кем-то ухаживал, то делал это так, что до меня слухи не доходили. Мне ни женщины не звонили, ни сплетни не передавали. Я объясняю это тем, что вокруг меня были приличные люди.

Думаю, у него наверняка случались романы. Он не пропускал красивых женщин...

Знаете, любовь — ни с чем не сравнимое чувство. И не каждый человек способен любить. Вернее, не каждому дано. Вот я считаю, что мне повезло: Бог послал мне такое счастье...

## В черном списке

*Игорь Добролюбов мечтал снять фильм по рассказу Василя Быкова "Желтый песочек". Он не раз ходил в Министерство культуры, встречался с тогдашним министром Л.Гуляко, но тот ссылался на то, что, дескать, не от него зависит, Минфин денег не дает. Годы шли, а великолепный режиссер сидел без работы. Вернее, он хотел работать, но ему не давали.*

*Добролюбов был отличным рассказчиком. И домой к нему почти каждый день приходили студенты из Академии искусств. Игорь Михайлович хотел преподавать, но ему, одному из учеников Михаила Ромма, не нашлось места ни в Академии искусств, ни в Университете культуры! Хотя каждый год обещали. И преподавателей в той же Академии не хватало.*

— Он очень переживал из-за этого, — *говорит Нелли Ивановна*. — В свое время Игорь подружился с создателем Института современных знаний Александром Широковым, и тот специально для него на продюсерском факультете открыл курс по режиссуре. Игорь и себя, и меня убеждал: продюсеры должны уважать режиссеров и знать, какой это труд. Студенты к нему очень хорошо относились...

## Смертельная болезнь

*Добролюбов никогда ни на что не жаловался. Просто жил и надеялся. А еще все время говорил, что думает: и про современный кинематограф, и про чиновников, которые управляли культурой. Конечно, это не всем нравилось. И ему мстили — мелко и низко.*

*Последние годы Игорь Михайлович тяжело болел. К перенесенным инфарктам добавились два инсульта, после которых он не смог до конца оправиться.*

*Третий инсульт у Добролюбова случился после того, как он узнал, что неизлечимо болен младший сын...*

— 9 февраля 2010 года мы узнали, что у Алеши опухоль головного мозга, — *рассказывает Нелли Ивановна.* — У него частенько болела голова, он бесконечно был с этими мобильными телефонами, много работал. Я даже как-то записала его на МРТ, но он не смог — поехал с женой Ольгой и дочерью Ариной в Альпы. Я перенесла запись на осень, но после прививки от гриппа сама тяжело заболела и просто забыла про Алешкино МРТ...

**— А как обнаружили опухоль?**

— Он стал заговариваться. Его отвезли к знакомому профессору на обследование. Врачи вначале сказали, что он просто очень устал. Порекомендовали хорошо выспаться. Мы с невесткой Ольгой решили навестить его в клинике, приезжаем, а он сидит в коридоре — веселый, красивый. И не спит. Завотделением сообщила, что ему сделали МРТ и... обнаружили опухоль. У меня тогда даже ничего не оборвалось внутри. Он вообще до этого ничем не болел! Я даже не подумала, что это может быть рак... За пару дней его дообследовали в 5-й клинике, и страшный диагноз подтвердился...

Никто не верил, что ничего сделать нельзя. Друзья сплотились и отправили Алешку на операцию в Германию. Он пробыл там три месяца, прошел облучение. Звонил мне оттуда, совершенно нормальным и счастливым голосом говорил: "Мама, 60 процентов излечиваются! Значит, я обязательно попаду в эту статистику!" Шутил даже! Мало того, они с Ольгой по его инициативе еще путешествовали по Европе! Он не сомневался, что будет жить. Был в этом уверен. И жил... У него как раз за полтора года до этого родился сын Андрей — он мечтал о сыне, и был так счастлив!..

Алеша вообще был оптимист. Человек-праздник. Он занимался серфингом и однажды чуть не погиб. Объявили штормовое предупреждение, а он как раз был на Минском море. 8 часов вечера — его нет. Море накрыла темнота, маяк погас, ничего не видно. Он вышел из воды только в начале первого ночи. Продержался в море больше четырех часов. Приехали все его друзья, и, поскольку света не было, они фарами светили на воду — чтобы он знал, в какую сторону плыть. У сына была огромная сила воли! Говорит: "Я сразу вспомнил всех и должен был выплыть".

Первый раз я тогда молилась за Алешку...

И когда он заболел, молилась.

Но опухоль была неизлечимой...

Игорю об этой болезни мы решили ничего не говорить. И до июля он ничего не знал. Как-то я села в кресло рядом с ним, а он закапризничал, что, мол, Алешка к нему совсем перестал заходить. Я не сдержалась, разрыдалась и рассказала все ему: "У нас горе — Алеша очень болен..."

Через день у него случился третий инсульт...

Алеша умер ровно через полгода после Игоря — 25 декабря... Ему было 37 лет...

Не знаю даже, как я все это пережила... Я просто оглохла и ослепла. Окаменела вся внутри. Без конца приезжала "скорая". Я даже плакать не могла. Иногда только из груди вырывались рыдания. Эти три года была как будто законсервированной. Только недавно ко мне вернулось какое-то сознание. Я не понимала, как такое может быть, чтобы и Игорь, и Алешка... Это просто какой-то кошмар...

*В одной из комнат в квартире Добролюбовых стоит большой портрет Алексея. Он улыбается и, кажется, что эта добрая и немного грустная улыбка адресована именно тому, кто смотрит на фотографию.*

— Мне кажется, что он здесь, — *тихо говорит Нелли Ивановна*.

*Старший сын Игоря Добролюбова Михаил вместе с семьей уже давно живет в Америке. Внешне он — точная копия отца. Когда брат заболел, Миша бросил работу и поехал с ним вначале в Германию, а затем сюда, в Минск. В ту ночь, когда умер Алексей, Миша был рядом с ним.*

— Все думали, что я уеду к Мише, — *говорит Нелли Ивановна*. — Но как я поеду? Я к Алешке раз в две недели езжу на кладбище, и к Игорю...

## Чтобы помнили

*На одной из столичных многоэтажек по улице Машерова, где почти 30 лет прожил Игорь Добролюбов, хотят повесить мемориальную доску.*

— Это была инициатива соседей — установить доску не на киностудии, а на доме, — *объясняет Нелли Ивановна*. — Я озвучила эту идею в Министерстве культуры. По совету министра Бориса Светлова написала бумагу на имя председателя Мингорисполкома Николая Ладутько. Примерно через две недели мне ответили, что вопрос о том, нужна такая доска или нет, должна рассмотреть идеологическая комиссия... На этом я решила остановиться. Тем более меня Игорь еще при жизни просил: "Если меня не станет, я тебя умоляю, никого обо мне не проси!.."

...Марина, возьмите вот эту фотографию Игоря Михайловича в газету — здесь он молодой, красивый, смеется. Не надо, чтобы материал получился грустным...

**Марина КОКТЫШ.**

**ЦИТАТНИК**

### *Игорь ДОБРОЛЮБОВ:* «Нелли создавала мне все условия...»



*"Профессия кинорежиссера, как известно, связана с постоянными разъездами, вот и моя режиссерская жизнь прошла в экспедициях, — делился Добролюбов подробностями семейной жизни в своих мемуарах "Осколки памяти". — Не снимать я не мог, и весь дом сразу лег на плечи Нелли Ивановны, которая мужественно тащила этот груз. Хотя сама работала на студии "от и до" — начальником звукоцеха. Она никогда не вмешивалась в мою работу, а создавала мне все условия. Заботливая, внимательная, преданная. Я весь был поглощен своими картинами, она же вся была поглощена нами — детьми и мужем. Вот такой, наверное, должна быть женщина — жена, мать, подруга в жизни.*

*Нелли иногда мне напоминает военную медсестру: девчушечку, которая по чудовищному, взрывающемуся со всех сторон полю ползет, взваливает на себя раненых бойцов — откуда только силы берутся — и выносит их с поля боя..."*



Вместе с сыном Алексеем.



В такого Игоря Добролюбова невозможно было не влюбиться.



С любимой женой.

### Из личного дела

*Игорь Добролюбов, народный артист, режиссер, сценарист.*

*Родился 22 октября 1933 года в Новосибирске, умер 19 июля 2010 года.*

*В 1956 году окончил факультет журналистики Белорусского государственного университета.*

*В 1963 году — ВГИК (мастерская Михаила Ромма).*

*В 1956—1958 годах — актер Белорусского республиканского ТЮЗа.*

*С 1963 года — режиссер киностудии "Беларусьфильм".*

*С 1974-го по 1975 год — секретарь правления Союза кинематографистов БССР.*

*С 1993 года — профессор Института современных знаний имени А.М.Широкова.*

*Похоронен на Восточном кладбище в Минске.*

*Снял фильмы: "По секрету всему свету", "Расписание на послезавтра", "Удивительные приключения Дениса Кораблева", "Третьего не дано", "Белые Росы", "Мама, я жив", "Осенние сны", "Плач перепелки", "Иван Макарович", "Потому что люблю" и другие.*

**ПРЭЗЕНТАЦЫЯ**

# Дайце дзеткам «Бусю»

## *А на «Вясёлку» прыемней глядзець разам...*

*"Народная Воля" пагартала старонкі адзінага беларускамоўнага часопіса для школьнікаў "Вясёлка" і пазнаёмілася з новым выданнем для самых маленькіх "Буся".*

### Апошні волат

Вось ужо амаль тры гады часопіс "Вясёлка" — адзінае выданне для дзяцей, якое цалкам друкуецца на беларускай мове. На айчынных прылаўках часопіс перажыў нават мастадонтаў савецкага рынку "Мурзилку" і "Пионера". Лёс "Вясёлкі" больш удалы, чым у часопіса "Бярозка". У 2010 годзе гэтае выданне на беларускай мове для падлеткаў і юнацтва далучылі да часопіса "Маладосць".

На жаль, часы, калі "Вясёлка" мела больш за 100 тысяч падпісчыкаў, таксама мінулі. Песімісты дык увогуле прадракаюць "Вясёлцы" заняпад. Але рэдакцыі ёсць што адказаць на гэты конт: часопіс не толькі не збіраецца згортваць сваю дзейнасць, але яшчэ і запускае новыя праекты.

Сёння тыраж "Вясёлкі" складае каля 11 тысяч экзэмпляраў. Гэта самае буйное выданне для малых у краіне. Можна сказаць, што сённяшняя "Вясёлка" — апошні волат дзіцячай літаратуры. Акрамя таго, рэдакцыя друкуе разнастайныя кнігі, дадаткі, укладышы.

*"Наш часопіс уваходзіць у лік выданняў, якія раяць выпісваць у школах і іншых дзіцячых установах*, — распавядае намеснік галоўнага рэдактара выдання **Анастасія Радзікевіч**. — *Гэта зусім няблага, праз гэта мы можам звярнуцца да рускамоўных бацькоў. Бо не кожны ідзе на кантакт і прыязна ставіцца да беларускай мовы. А так атрымае чалавек часопіс па падпісцы, пагартае — і, магчыма, зацікавіцца"*.

### З папаўненнем!

Галоўнай "вясёлкавай" навінай гэтага года стала папаўненне ў рэдакцыйнай сям'і. На свет з'явіўся новы штомесячны часопіс для дзетсадаўцаў і малодшых школьнікаў "Буся". Выданне ўжо можна знайсці ў кіёсках "Белсаюздруку" па ўсёй краіне, каштуе яно ўсяго 10 тысяч рублёў і ўтрымлівае мноства цікавых і карысных артыкулаў. Галоўнае — усе яны на беларускай мове! Спецыяльна да першых выпускаў "Бусі" **Уладзімір Ліпскі і Раіса Баравікова** напісалі казку пра літары.

А яшчэ днямі супрацоўнікі рэдакцыі прадставілі новы праект "Бібліятэка "Вясёлкі". У межах кніжнай серыі выйдуць у свет зборнікі тых твораў, што на працягу 57 (!) гадоў друкаваліся ў часопісе.

*"Першай у серыі "Бібліятэка "Вясёлкі" выйшла кніга Эдзі Агняцвет "У свеце дабрыні"*, — распавёў падчас прэзентацыі новага нумара часопіса галоўны радактар "Вясёлкі" **Уладзімір Ліпскі**. — *Выданне атрымалася вельмі цікавым, бо мы змясцілі ў кнізе ілюстрацыі, якія калісьці выходзілі ў "Вясёлцы". Так што маленькія чытачы могуць пагартаць кніжку разам з бацькамі, магчыма, яны пазнаюць вершыкі Эдзі Агняцвет ды ілюстрацыі да іх"*.

Наступным пасля зборніка вершаў Эдзі Агняцвет у свет выйдзе кніжка "Праўда і лухта пра вусатага ката". Пад адной вокладкай аўтары-ўкладальнікі збяруць усе вершы, казкі, загадкі з "Вясёлкі", якія былі прысвечаны коцікам.

**ТЫМ ЧАСАМ**

### *Ці адбудзецца трыумфальнае вяртанне з нябыту?*

*Тры гады таму далучэнне часопіса "Бярозка" да "Маладосці" выклікала хвалю негатыву ў грамадстве. Зараз падобна на тое, што чыноўнікі могуць пайсці на кампраміс...*

Апошнім часам з'явіліся чуткі аб тым, што "калегу" "Вясёлкі" "Бярозку" могуць вярнуць да самайстойнага існавання. Пакуль гэта інфармацыя не мае ніякіх афіцыйных пацвярджэнняў. Ды і як пасярэдзіне года пачнуць друкаваць выданне, якога і ў рэестры няма?

Кажуць, што вяртанне "Бярозкі" будзе звязана з вялікімі пераменамі. Кажуць нават аб стварэнні холдынга дзіцячых выданняў. Але і на гэты раз — толькі закулісныя абмеркаванні. Хоць плеткары ўжо "прызначылі" на пасаду кіраўніка ўяўнага холдынга рэдактара "Вясёлкі" Уладзіміра Ліпскага. Уладзімір Сцяпанавіч стаў пераемнікам **Васіля Віткі** на пасадзе першай асобы "Вясёлкі" ў 1978 годзе і кіруе выданнем ужо 35 гадоў.

*"Нам вельмі пашчасціла з галоўным рэдактарам,* — прызналася спадарыня Радзікевіч. — *Такога рэдактара заслугоўвае кожнае беларускае выданне. Ён незаменны чалавек, калі гаворка заходзіць аб прасоўванні і распаўсюджванні нашай прадукцыі"*.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

ІРАНІЧНАЯ ПАЭЗІЯ


Фота Д. Кунстадтара

*Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК*

# Яшчэ раз пра Хомку

*Гэта трэцяя публікацыя “Вершаў для Хомкі” ў “Народнай Волі” — першыя дзве з’явіліся летась 30 кастрычніка і 28 снежня.*

*Вершаў, дарэчы, склалася гэтулькі, што самы час ужо думаць пра выданне іх асобнай кніжкай...*

*А пачыналася ўсё з прыемнай прапановы весці ў адным небеларускім дзіцячым часопісе беларускую старонку.*

*Для гэтай старонкі патрэбны быў герой, і неяк само па сабе згадалася з прозы Максіма Гарэцкага: “...герой нашае гісторыі Хомка”.*

*Я шчасліва ўсміхнуўся, бо зразумеў, пра каго будуць мае творы, і яны — першыя творы пра Хомку — былі класічна дзіцячыя, а крыху пазней пачалі пісацца радкі і “недзіцячага” зместу.*

*Мусіць жа, з гэтай прычыны прапанова на супрацоўніцтва з небеларускім часопісам была інтэлігентна забыта — і слава Богу!*

*Дзякуючы гэтай прапанове, я здабыў плён, а той, хто мае плён, заўсёды задаволены.*

## Хомка і дамы

*Кураць дамы. Статку дам*
*Хомка гыркнуў: “Вам як дам!*
*Абкурылі ўсё наўкол,*
*Хоць глытай тут валідол!*

*Зранку самага, з шасці*
*(Беларусь, вітай курчых!)*
*Не прабегчы, не прайсці*
*Паўз надымленых такіх!*

*Задыхнуцца можна ўраз,*
*Налажыцца галавой...*
*Хоць насі процівагаз*
*Ад заслоны дымавой!*

*Сярод мінскіх камяніц*
*Я нібы на хімвайне...*
*Гэтых дымных маладзіц*
*Хочацца абгаўкаць мне!”*

*Праўда Хомкава... Прытым*
*Я з трывогаю дадам:*
*Цыгарэтны шкодны дым*
*Удыхае мноства дам...*

*А яшчэ ж у гэты верш*
*Хомкавы дадам уздых:*
*“Трактарысты кураць менш*
*Каля трактараў сваіх...”*

## Хомка і дурань

*Не таблеткай, не мікстурай*
*Дурань лечыцца, бо дурань...*
*Коле ў вену ён адразу*
*Наркатычную заразу!*

*Шчасце наплыве такое!*
*Саладзей за дно нірваны!*
*Ну вядома нам: якое*
*Шчасце маюць наркаманы!*

*Дзень мінуў, і бачыць Хомка —*
*Пачалася ў дурня ломка!*
*То качаецца па снезе,*
*То зусім на сцены лезе...*

*Мукі бачачы такія,*
*Сэрца ў Хомкі як заные:*
*“Ах, мой дурань дарагі,*
*Кінь наркотыкі дурныя,*
*Пераходзь на корм сухі!”*

## Хомка раздражнёны

*Не прайсці па тратуарах,*
*Бо на кожным тратуары*
*Смецце розных іншамарак,*
*Аўтаўсякія пачвары!*

*Скрозь — машыны і машыны...*
*Гэта ўсё Хаму дастала:*
*“Вы чаго свае ламіны*
*Ставіце куды папала?*

*Аўтастойлы ёсць на гэта,*
*І таму на стойлы тыя*
*Драндулет за драндулетам*
*Стаўце, людцы дарагія!”*

## Хомка не злодзей

*Людзі робяць: даў на даў...*
*Па-сабачы ж тое*
*Ну, вядома: гаў на гаў —*
*Правіла святое!*

*Розніца ж у тым ляжыць*
*Ад біблейных датаў:*
*Людзі крадуць, людзям жыць*
*Хочацца багата...*

*Па старонцы-старане,*
*Як апостал, ходзіць*
*І не крадзе Хомка, не —*
*Хомка наш не злодзей!*

## Хомка і п’яніца

*Горкі п’яніца стары*
*Піў у Хомкавым двары*
*І прапіў свае штаны,*
*Ды старому хоць бы хны!*

*А Хаме зусім не хны —*
*Голы чалавек калі:*
*“Я б аддаў яму штаны,*
*Каб яны ў мяне былі!”*

## Хомка і начальнік

*Спаў у спальніку начальнік,*
*А Хама не знаў аб тым*
*І залез у гэты спальнік...*
*А начальнік быў крутым!*

*Закрычаў круты начальнік*
*І выпіхваць стаў Хаму:*
*“Гэта мой, сабака, спальнік,*
*І ляжаць мне аднаму!*

*Пры да спальнікаў сабачых,*
*Да другіх ляці сабак,*
*Бо іначай ой заплача*
*Па табе наш аўтазак!..”*

*Хомка тут не валаводзіў*
*І не стаў даваць адпор,*
*А па роднай па прыродзе,*
*Як загадана, папёр!*

*А тады ўжо дзень каторы*
*Думаў, чухаючы зад:*
*“Калі ён не з той канторы,*
*То, напэўна, дэпутат!”*

## Хомка і партыі

*Хомка спаў сабе пад лавай,*
*А ўсе партыі якраз*
*Пачалі Хаму ласкава*
*Зваць у дружны свой калгас.*

*Разбудзілі, раззлавалі...*
*І Хама (ну, сам не свой!),*
*Каб далей не данімалі,*
*Пеканўў як крапівой:*

*“Трэба рэдзька, як і рэпа,*
*Морква, бульба і цыбуля...*
*Трэба ўсё! А вы не трэба*
*Ні адгэтуль, ні адтуля!”*

*Даўшы водпаведзь такую,*
*Хомка зноў залез пад лаву*
*І ні ў гэтую, ні ў тую*
*Партыю (хоць у якую!)*
*Так і не падаў заяву.*

## Хомка і ёд

*Хомка лез па смачны мёд,*
*Ды ўхапіў у ляпу ёд!*
*Ажно віскнуў: “Ідыёт,*
*Пераблытаў ёд і мёд!*

*Можна зблытаць з тапкам бот,*
*З апельсінам бутэрброд,*
*Са сцяною доўгі плот,*
*З нечым задам нечы рот!*

*З супермаркетам завод,*
*З параходам пераход,*
*З дэпутатамі народ,*
*А з людзьмі народны сход!*

*Захад зблытаць і Усход,*
*З кулямётам мінамёт...*
*А каб зблытаць з мёдам ёд?!*
*І напраўду ж — ідыёт!”*

## Хомка і слава

*Хомку слава так сказала:*
*“Хочаш славу мець Шагала?!*
*Дык, Хама, чаго стаіш?!*
*Пры хутчэй, Хама, ў Парыж!*

*Зноў жа... Ходзіш тут без пары,*
*А францужанку б, дальбог,*
*Там знайшоў бы ў першым бары,*
*Бо французскі ж ты бульдог!*

*Справа добрая, як бачыш,*
*Парай б’е адразу ў нос!*
*Памяняеш кон сабачы*
*На сабачы лепшы лёс!”*
*Хомка буркнуў: “Добра брэшаш!*
*Толькі не папру я, не...*
*Бо ніхто ў Парыжы вершаў*
*Не напіша для мяне!”*

## Хомка і член

*Ганаровы нейкі член*
*Нейкай акадэміі*
*З грыпам трапіў на рэнтген*
*Пасля эпідэміі.*

*А калі прайшоў рэнтген*
*І Хаму пабачыў,*
*То ў Хамы спытаўся член:*
*— Як жывеш, сабача?*

*“Смешны член, што ні кажы!” —*
*Хомка хмыкнуў крыва,*
*Але шчыра, ад душы,*
*Адказаў шчасліва:*

*— Я жыву, нібыта леў!*
*Маю харч усякі*
*І на грып не захварэў,*
*І не член ніякі!*

## Хомка і тэлебалбатун

*Не ў кантакце, не ў ютубе —*
*Скажам так, у нейкім клубе*
*Раскапусціўся лізун —*
*Хітры тэлебалбатун!*

*Дзіва Хомцы: “От, балбоча,*
*Не стамляецца ніяк,*
*Хоць яму ты плюнь у вочы,*
*Ён усіх перабалбоча*
*І сабак, і не сабак!*

*З ім і хлопцы маладыя,*
*Часам — дзеўкі не старыя...*
*Не сказаць: сышліся пні...*
*Кожны напінае шыю,*
*Кожны майстар балбатні!*

*Кожны ліжа, ажно млее,*
*Згодна крэсла, толькі ўсё ж*
*Лепей ад усіх умее*
*Ён лізаць і ўвысь, і ўдоўж!*

*Ці ў яго такія гены?!*
*Ці ў яго такія вены?!*
*Не, ніякія не вены...*
*Што гадаць — такія гены!*
*Вены — гэта ў наркамана,*
*Гены — ў тэлелізамана...”*

*Хомка змоўк. Зайздросна стала:*
*Пацалуй яго пярун!*
*Як лізаць умее ўдала*
*Хітры тэлебалбатун!*

## Хомка і сектар Газа

*У агенцтве турыстычным*
*Хомка звесіў галаву:*
*“Я не быў нідзе практычна*
*За мяжою... От жыву!*

*Толькі Мінск адзін і знаю*
*І па Мінску ад нуды*
*Я гаспадароў цягаю*
*За сабой сюды-туды...”*

*Як на дзіва, паглядзелі*
*На Хаму ў агенцтве тым,*
*Праўда, ветліва сустрэлі —*
*З дзелавітасцю прытым!*

*“Вам за вашую гатоўку, —*
*Клерк сагнуўся малады, —*
*Сам я выберу пуцёўку*
*І адпраўлю хоць куды!”*

*“А куды?” — Хама адразу*
*Запытаў, каб знаць куды,*
*І сагрэты быў адказам:*
*“Хоць у сам... у сектар Газа!*
*Хоць на дзень, хоць назаўжды!”*

*“Сектар Газа?! Там ні разу,*
*Там ні разу я не быў,*
*І таму я еду ў Газу!” —*
*Так Хама пастанавіў.*

## Хомка і жалязяка

*Хомка еў са смакам піцу,*
*І ў той піцы пасярод*
*Раптам ён убачыў спіцу —*
*Ледзьве не ўхапіў у рот!*

*Спіца з роварнага кола —*
*Жалязяка! І яна*
*Ўся залітая расолам...*
*Добра, што не салідолам, —*
*Коўць такую і хана!*

*Хто падкінуў спіцу ў піцу?*
*Што пытацца... Нізашто*
*На сябе не возьме спіцу*
*Тут, вядома, аніхто!*

*Хомка небяспеку ўгледзеў*
*І ўздыхнуў: як ні круці,*
*Жалязячыну ў абедзе*
*Можа кожны з нас знайсці...*



*Памятаючы пра Хомку,*
*Беларускі мой народ,*
*Тут галоўнае не хамкнуць*
*Тую жалязяку ў рот!*

## Хомка і сацыяльна значная літаратура

*Хомка кніжак мех прыпёр*
*І спакойна дома*
*Прачытаў за творам твор,*
*Том за доўгім томам.*

*Там балад было, як мух,*
*Нудныя раманы...*
*Маюць на балады нюх*
*Суперграфаманы!*

*Цалаваныя маной*
*Не ў імя мастацтва,*
*А для мэты для адной —*
*Толькі б друкавацца...*

*І сабакам у двары,*
*Як чытач удзячны,*
*Хомка крыкнуў: “О, сябры!*
*Стаў я з гэтае пары*
*Сацыяльна значны!”*

## Хомка і карты

*Хомка не гуляе ў карты,*
*Карты — гэта вам не жарты...*
*І разумны, і дурны*
*Можа прагуляць штаны!*

*Перабраўшы ў картах меру,*
*Прагуляеш дом, кватэру,*
*А ў апошнім віражы —*
*І душу, і ўсё ў душы...*

*Хомка — педагог прыродны...*
*І таму без лішніх дзей*
*Напамінак неабходны*
*Склаў ён для малых дзяцей:*

*“Дзеці, не гуляйце ў карты!*
*От парада вам мая,*
*А свае пільнуйце парты*
*І жывіце так, як я!”*

## Хомка і кідалы

*Ходзяць у тэатр кідалы,*
*Толькі не ў тэатр Купалы;*
*У кідалаў ёсць нямала*
*Іншых тэатральных залаў.*

*І туды ўсім кагалам*
*Пруцца звечара кідалы,*
*І, нібыта генералаў,*
*Сустракаюць там кідалаў!*

*А як два ці тры кідалы*
*Зойдуць у тэатр Купалы —*
*Хомка гнутка выгне спіну:*
*“Не, тэатр яны не кінуць!*

*І таму Пінігін Коля —*
*Бог сцэнічнае красы,*
*Не хвалюецца ніколі*
*З-за такое драбязы!”*

## Хомка і «хунвэйбін»

*Д’ябал даў запалу,*
*Даў і сліну для*
*Ведамага шалу:*
*Плюнуць на Купалу!*
*Плюнуць на Брыля!*

*Хомка наш старанна*
*За адзін уздых*
*Склаў пра слінамана*
*Пяць радкоў такіх:*

*“Ён, вядома, класік*
*Ў Шабанах адзін...*
*Гамбургскі “каўбаснік”,*
*Гамбургскі “калгаснік”,*
*Мінскі “хунвэйбін”!”*

## Хомка і чытнік

*Фірмы Sony рыдар быў...*
*І за два мільёны*
*Хомка рыдар той купіў —*
*Чытнік электронны!*

*І ад радасці такой*
*Аж забыў паесці;*
*Спампаваў у чытнік той*
*Кніжак, пэўна, дзвесце!*

*“Будзе ў хаце менш папер! —*
*Кажа ўсхваляваны. —*
*Буду ў чытніку цяпер*
*Мець усе раманы!*

*Я ў чытанні век жыву*
*І — чытач талковы —*
*Рыдар чытнікам заву*
*Згодна роднай мовы...”*

*Хомка сёння ўсім на здзіў*
*Шчыра, адмыслова*
*Рэч выдатную купіў*
*І прыдумаў слова!*

ПАМЯЦЬ

# Мадонна

***19 октября на кладбище в деревне Тарасово был открыт памятник Ирине Козулиной***



*Благодарю тебя, Господь,*
*Что дал возможность пронести*
*Свой Крест достойно.*
*Познать Любовь и Красоту*
*Пройти горнило испытаний,*
*Наполнить Душу состраданьем...*

Эти слова, выбитые на надгробной плите, посвятил своей жене Александр Козулин — экс-кандидат в президенты Беларуси на выборах 2006 года. В них — вся жизнь этой великой маленькой женщины.

Ирина Ивановна не была политиком. Она была любящей женой и матерью, ее знала вся Беларусь и сотни женщин, больных раком молочной железы. Ее любили и уважали даже те, кто не разделял политических взглядов ее мужа. Ирина Козулина умерла 23 февраля 2008 года на 49-м году жизни. 10 лет она страдала раком груди. Два последних года ее жизни — это не только борьба со страшной болезнью, но и пример того, как можно мужественно и мудро переносить удары судьбы и быть сильнее всех политиков независимой Беларуси.



Памятник Ирине Козулиной — работа известного скульптора Александра Кострюкова. Среди его работ — памятники на могилах народного артиста СССР Владимира Мулявина и первого Героя Беларуси Владимира Карвата. Удивительно: Александр Михайлович не знал при жизни Ирину Козулину, но при этом смог показать ее такой, какой она была, — мудрой, трогательной, жертвенной.

— Я знал историю Ирины Ивановны, — говорит Александр Кострюков. — В 2008 году следил за всем, что происходило в стране, из прессы... Когда ко мне обратились с просьбой сделать памятник на ее могиле, я много общался с теми, кто хорошо знал Ирину Ивановну при жизни. Просмотрел много фотографий... Я считаю, что это была святая женщина. И мне показалось, что она должна быть в длинных одеждах. В образе Мадонны. И возникла идея сделать капюшон. Ее подруги сказали, что Ирина любила носить одежду с капюшоном. Так вот совпало...

Работа над памятником заняла несколько лет. Редкий белый мрамор везли из Челябинска, родина черного гранита — Карелия. Открытие памятника не случайно было назначено на 19 октября. Это день рождения Ирины Козулиной.

На кладбище собрались самые близкие и родные люди, друзья семьи Козулиных. Памятник освятил ксендз — Ирина Козулина была католичкой. В конце торжественной церемонии дочери Ирины и Александра Козулиных — Ольга и Юлия, мать Ирины Ивановны — Данута Викентьевна Соболевская выпустили в небо белых голубей. Яркое солнце, пронзительно синее небо, Мадонна, просящая за нас, взмах белоснежных крыльев — память и любовь, уносящиеся к Ирине Козулиной в небеса...

**Мария ЭЙСМОНТ.**



ТЭЛЕЭКРАН

# Нязручныя пытанні Валярыны

*Перадача “Чорным па белым” на “Белсаце” значыцца сярод культурніцкіх. Аднак яна пра культуру ў шырокім сэнсе — у тым ліку на тэмы, пра якія ў нас звычайна не гавораць. Ёсць у перадачы і модная аздоба, а як інакш, калі вядуць яе дзве паненкі — малады літаратар Валярына Кустава і журналістка з 20-гадовым досведам Вольга Гардзейчык-Мазярска.*

“Што да сутнасці перадачы, то культурніцкі аспект у ёй найбольш істотны. Чым далей, тым болей мы паглыбляемся менавіта ў яго, бо адчуваем запатрабаванасць. Але таксама закранаюцца праблемы грамадства, нацыянальнай ідэнтычнасці, незалежнасці, бо культура, мастацтва шчыльна павязаны з імі — асабліва ў нашай краіне”, — разважае Валярына Кустава.

“І не так жа шмат культурніцкіх перадач на “Белсаце”, дамінанта — інфармацыйная частка. Яно і не дзіва: праблем у Беларусі хапае. Культура здольная аб’ядноўваць, хаця апошняя сітуацыя вакол магчымага ўганаравання Нобелеўскай прэміяй Святланы Алексіевіч паказала адваротнае. Я, напрыклад, была гатова піць віно ў абодвух выпадках (былі нагоды)”, — кажа вядучая “Чорным па белым”.

Зрэшты, на яе думку, строга культурніцкіх тэм няма, бо культура — гэта падказка лёсу краіны: “Творцы — асобы з тае прасторы, дзе фарміруецца мысленне нацыі. Нарэшце, культура самаствараецца і стварае нацыю. Ну і зразумела, што для мяне як літаратара культура не можа не стаяць на першых месцах”.

Цікава, што да “Чорным па белым” вядучыя перадачы не былі нават знаёмыя. А хто з іх добры і злы паліцэйскі?

“Паводле задумы, я задаю больш няёмкія пытанні, — прызнаецца Валярына. — Але задаю іх так пяшчотна, што часам эмацыйна цяжка адразу нават зразумець, што яны з пярчынкай. Нязручныя пытанні, натуральна, цікавей задаваць, таму і мая савядучая Вольга не можа адмовіць сабе ў такой прыемнасці”.

Ці часта госці перадачы адмаўляюцца адказваць на гэтыя самыя няёмкія пытанні?

“Ёсць рэчы з прыватнай сферы, і я ведаю шмат таямніц пра ўсіх беларускіх дзеячаў, — інтрыгуе Валярына. — Але журналісцкая этыка не парушаецца. Наша свабода канчаецца каля кончыка носа іншай асобы. Ці адказала б я сама на любыя пытанні? Пэўна, так. Я гатова быць шчырай з публікай”.

Дарэчы, у наступных перадачах адной з тэм стане акурат журналісцкая этыка — Валярына Кустава называе гэта “балючым пытаннем у Беларусі”. З іншых тэм у хуткім часе — Нобелеўская прэмія для беларусаў, пра нашы традыцыі і постмадэрнізм, пра беларусаў замежжа.



“Камусьці з гледачоў цікавыя думкі гасцей, іншым — меркаванні вядучых, ёсць і тыя, хто звяртае ўвагу на нашы прычоскі, завушніцы, іншыя “а*секс*уары”, — жартуе Валярына. — На тэлебачанні візуальнае істотна. І я спрабую розныя іпастасі: часам гламурнай дзяўчынкі, часам імператрыцы... Многія гэта заўважаюць, хай і ацэньваюць па-рознаму. Касцюмы выбіраю сама, набываю, хаця вельмі хацелася б, каб у нас у перадачы быў стыліст! І заўважце: я ніводнага разу не паўтарылася ў адзенні падчас эфіру, хоць трымацца чорнага і белага складана. Нядаўна вось на частку ганарару ад апошніх перадач набыла шыкоўных бюстгальтараў”.

Як бачым, вядучая “Чорным па белым” сапраўды гатова да любых тэм, а найперш — рабіць шчырую і цікавую перадачу.

Валярына Кустава кажа, што ў “Чорным па белым” ёй цікава працаваць у тым ліку і дзеля набыцця прафесійнага досведу: “Успрымаю гэта як старт. Усцешана, што ў гэтай справе мне дапамагаюць супрацоўнікі канала. Напрыклад, Дзмітрыя Гурневіча і Паўла Мажэйку з “Два на два” я называю старэйшымі калегамі. Таксама добрыя парады мне даюць мае спрактыкаваныя калегі, што на канале ад самага яго стварэння, — Сяргей Пялеса, Аляксей Дзікавіцкі, Яраслаў Каменскі. Мяне ўсе падтрымліваюць, спрабуюць падказаць. Хаця ўсё адно, калі рабіла ўпершыню мантаж, калі без папярэдніх рэпетыцый села перад пяццю камерамі і пачала весці эфір — было адчуванне, што я шчанючок, якога кінулі ў ваду... каб выплыў. Хаця цяпер падказак ажно зашмат ад усіх. Але досвед прыходзіць у тым ліку праз пэўныя эксперыменты. Над сабой, над адчуваннямі публікі. Скажам, калі прамацваеш аўдыторыю наконт таго, наколькі можна “перагнуць” нейкую эмоцыю, меркаванне, як было гэта ў нашай перадачы на тэму гей-культуры”.

Што да зваротнай сувязі з гледачамі, то цяпер яны пакуль часцей пішуць не на паштовую скрынку перадачы *black@belsat.eu*, а ў “прыват” на Facebook ці іншыя сацыяльныя сеткі да вядучай.

Яна рада ўсім лістам: пішыце, глядзіце прэм’ерныя выданні “Чорным па белым” па аўторках (паўтор — па нядзелях) два разы на месяц. “Бо мы гэта робім для вас!” — кажа Валярына.

“Белсат” — незалежнае тэлебачанне, бясплатны тэлеканал на беларускай мове, які транслюецца праз спадарожнік “Astra 4A” (5˚ E) і ў інтэрнэце на www.belsat.eu. У эфіры “Белсата” штодня з 19-й гадзіны свежыя навіны і каментары цягам інфармацыйна-публіцыстычнага вечара, а таксама дакументалістыка, культурныя і забаўляльныя праграмы, мастацкія фільмы, серыялы.

**Адрас рэдакцыі: 220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а. Прыёмная: тэл. (017) 3286871. Тэл./факс рэкламнага аддзела: (017) 3286904, 3286906**
**nvonlineinfo@gmail.com**
**http://www.nv-online.info**

ISSN 2071-9647

**Падпісныя індэксы: 63222, 632222**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**

**У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 21.10.2013 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 26470 экз. Заказ №4323.**